



# рэгіянальная газета

22 лістапада 2013 года
№ 47 (969)

Тэлетыдзень 26

http://rh.by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".





Паспець за месяц да свята! Да навагодніх святаў застаецца 39 дзён.

20-я старонка





80% тавараў не адпавядае тэхрэгламенту.Аддзел дзяржнагляду правёў праверку на рынках Маладзечна.

2-я старонка




## навіны рэгіёна

### Віцэ-прэм'ер Беларусі наведаў "Палачаны"

**МАЛАДЗЕЧНА.** Коннаспартыўны комплекс "Палачаны" наведаў віцэ-прэм'ер Беларусі **Міхаіл Русы**. Пра гэта "РГ" паведаміў намеснік начальніка аддзела адукацыі, спорту і турызму **Мікалай Шрымф**. Сустрэча адбылася 20 лістапада. У ёй, акрамя віцэ-прэм'ера, узяў удзел міністр спорту і турызму Беларусі **Аляксандр Шамко**, кіраўнікі федэрацыі коннага спорту Беларусі. Сустрэча праходзіла ў фармаце працоўнай нарады. Доўжылася яна чатыры гадзіны. На нарадзе ўзнімаліся праблемы коннага спорту ў Беларусі. У прыватнасці, абмяркоўваліся пытанні ветэрынарыі, харчавання жывёл. Мяркуецца, што пасля гэтай сустрэчы падрыхтоўка спартсменаў, якія займаюцца конным спортам, пяройдзе на іншы ўзровень. Запланавала было, што такія сустрэчы цяпер будуць праходзіць раз на месяц у іншых коннаспартыўных комплексах краіны.

### Адкрылі казачную скульптуру "Рэпка"

**ВІЛЕЙКА.** Адкрыццё скульптуры па казцы "Рэпка" прайшло 20 лістапада ў гарадскім парку. Скульптуру стварыў **Валеры Апарык**. Дапамагаў яму яго сын **Тарас**. Працы над ёй ішлі цягам пяці месяцаў. Чаму менавіта "Рэпка"? Спадар Валеры лічыць, што гэта выцякае з самой казкі: праблему, якую немагчыма вырашыць самому, трэба вырашаць разам. Раней рукамі Валерыя Апарыка ў Вілейцы была створаная скульптура дворніка, яе ўсталявалі побач з Вілейскім ЖКГ. На Вілляніным хутары стаіць Лясун – таксама справа рук спадара Валерыя. Ён займаўся і дэкаратыўнымі кошыкамі для кветак. Хутка з'явіцца яшчэ адзін.

Аддзел інфармацыі.



# Што адбылося ля гандлёвага цэнтра



Фота pic.twitter.com/eAv72YaLVE

Фота затрымання выклаў у Твітары карыстальнік nenazvannij.

**МАЛАДЗЕЧНА. Інцыдэнт з сілавым затрыманнем мужчыны ля гандлёвага цэнтра "Тройка" здарыўся 12 лістапада.**

Падзея выклікала інтарэс у шматлікіх карыстальнікаў інтэрнэта, дзе адразу ж пасля здарэння з'явіліся фотаздымкі і відэа відавочцаў, якія бачылі, як ішло затрыманне. Аднак пытанне заставалася: каго і за што?

Як удалося высветліць, затрыманы аказаўся раней неаднаразова судзімым 30-гадовым жыхаром Маладзечна.

Па словах начальніка прэс-службы УУС Мінаблвыканкама **Аляксандра Данільчанкі**, ён адбываў пакаранне ў папраўчай установе адкрытага тыпу №33 у Мінску, але 10 лістапада збег адтуль. Праз два дні каля гандлёвага цэнтра ў Маладзечне яго якраз і схапілі супрацоўнікі папраўчай установы разам з байцамі АМАПа з Мінска.

– Падчас затрымання ў яго знайшлі нож і пнеўматычны пісталет, таму працэс і быў жорсткім, – тлумачыць Аляксандр Данільчанка. – Усё рабілі для таго, каб засцерагчы людзей, якія маглі выпадкова аказацца ля месца затрымання.

Мужчына раней быў судзімы за крадзяжы, разбой і рабаванне. Падчас знаходжання ў папраўчай установе неаднаразова парушаў рэжым і ўжываў наркотыкі.

Тым часам, начальнік папраўчай установы №33 ад каментароў адмовіўся.

– Уся афіцыйная інфармацыя ёсць у прэс-службе. Мне дадаць няма чаго, – адказаў ён па тэлефоне.

### Па словах блізкіх

Між тым, да нас у рэдакцыю звярнуліся сваякі затрыманага мужчыны. З іх слоў, пасля затрымання ён знаходзіўся ў маладзечанскай бальніцы з мноствам траўмаў. Блізкія сцвярджаюць, што іх сваяка білі па ўсіх частках цела і цяпер у яго шматлікія гематомы ды прабітае лёгкае. А ці ўжываў ён наркотыкі, да справы гэта не адносіцца. Не аб гэтым гаворка.

Мы звязаліся з затрыманым па тэлефоне, каб задаць пытанні пра яго самаадчуванне і пра тое, што ж здарылася ў той дзень, 12 лістапада?

– А як можна сябе адчуваць пасля таго, як збівалі шэсць чалавек? У мяне прабітае лёгкае, а галава – быццам шлем вадалаза. Я сапраўды пакінуў месца, дзе адбываў пакаранне. Мне прызначылі пяць гадоў "хіміі", і я вырашыў, што калі збегчы, то пакаранне заменяць на адзін-два гады турэмнага зняволення. Для мяне гэта лепш. А асудзілі мяне за дробязі: крадзеж быў. Я згодны, што вінаваты, але ж навошта калечыць?

### Затрыманы збег зноў?

Праз тыдзень высветліліся новыя падрабязнасці. Як распавяла жонка затрыманага, на наступны дзень пасля нашай размовы з пацярпелым у бальніцы з'явіліся людзі з папраўчай установы №33 і прымусова забралі яго ў Мінск.

– А ў яго тэмпература была амаль 39 і ў лёгкім была трубка, праз якую адводзілася кроў! Што за дактары такія, якія адпускаюць хворага чалавека? Мы не супраць, што мой муж вінаваты, і хай яго судзяць, але і тыя, хто яго збіваў не павінны застацца без пакарання. А мяне з чатырохгадовай дачкой муж – самы найлепшы чалавек у свеце.

**– Дзе зараз знаходзіцца ваш муж?**

– Мы ведаем, што ён зноў збег з Мінска, цяпер недзе ў Маладзечне. Мы звярнуліся ў Следчы камітэт горада. Узбуджаная справа.

Тым часам старшы следчы маладзечанскага Следчага камітэта **Юры Багушэвіч** кажа, што ў перыяд з 11 да 20 лістапада ніякіх крымінальных спраў, звязаных з гэтай, не ўзбуджалася. Пацярпелага з такім прозвішчам не зарэгістравана.

Яўгенія РУСАКЕВІЧ.

ДЗЯРЖСТАНДАРТ ІНФАРМУЕ

# 80% тавараў не адпавядае тэхрэгламенту

## Аддзел дзяржнагляду правёў праверку на рынках Маладзечна

**МАЛАДЗЕЧНА. Аддзел дзяржнагляду ў Маладзечне Інспекцыі дзяржстандарту па Мінскай вобласці і Мінску ў першай дэкадзе лістапада правёў маніторынг на чатырох рынках.**

Маладзечна: рынак райспажыўтаварыства, "Гандлёва-будаўнічая кампанія" (рэчавы рынак), "Модуль" і гандлёвы дом "Тройка".

Сярод правераных 33-х індывідуальных прадпрымальнікаў парушэнні заўважылі ў 28. Праверылі трыкатажныя вырабы, адзенне, мужчынскае і жаночае, тканіны, камплекты пасцельнай бялізны, коўдры і пледы.

**Усяго праверылі 2544 найменні прадукцыі лёгкай прамысловасці, а з парушэннямі былі 2063 найменні. Гэта 80% тавараў.**

Пацвярджэнне адпаведнасці тавараў лёгкай прамысловасці патрабаванням тэхрэгламенту Мытнага саюза мелі не больш за 15% правераных, прычым толькі на частку прадукцыі, якая рэалізуецца. Практычна ва ўсіх індывідуальных прадпрымальнікаў выявілі парушэнні ў частцы маркіроўкі тавараў: на вырабах адсутнічала інфармацыя аб вытворцы, яго месцазнаходжанні, аб складзе сыравіны і спосабах догляду за вырабамі, не пазначаная дата вырабу і г.д. Адсутнасць усёй гэтай інфармацыі – парушэнне артыкула 7 Закона Беларусі "Аб абароне правоў спажыўцоў" і артыкула 9 ТР МС 017/2011 .

Аднак у адзінкавых выпадках прадпрымальнікі мелі арыгіналы ці копіі сертыфікатаў адпаведнасці або дэкларацыі аб адпаведнасці патрабаванням тэхнічнаму рэгламенту. Некаторыя тавары мелі маркіроўку адзіным знакам абарачэння прадукцыі на рынку Мытнага саюза або нацыянальнымі знакамі адпаведнасці краін МС.

У ходзе маніторынгу 1-3 і 9 лістапада аддзел дзяржнагляду (Маладзечна) Інспекцыі дзяржстандарту па Мінскай вобласці і Мінску выдаў рэкамендацыі 85% ахопленых маніторынгам індывідуальных прадпрымальнікаў па ліквідацыі выяўленых парушэнняў.

На рынках правялі тлумачальную работу з тым, як атрымліваць дакументы аб пацвярджэнні адпаведнасці і даваць спажыўцам дакладную інфармацыю пра бяспеку і якасць тавараў, якія рэалізуюцца.

Вызначаны тэрмін, па заканчэнні якога індывідуальныя прадпрымальнікі павінны праінфармаваць наглядны орган аб выкананні рэкамендацый.



Фота Настассі РОУДА.

На маладзечанскім рынку райспажыўтаварыства.

**Для індывідуальных прадпрымальнікаў – плацельшчыкаў адзінага падатку – да 1 ліпеня 2014 года спрошчаны парадак пацвярджэння адпаведнасці прадукцыі легпрама патрабаванням ТР МС 017/2011.**

Да гэтай даты ўсе ўдзельнікі рынку ў поўным аб'ёме павінны забяспечыць выкананне патрабаванняў дадзенага тэхнічнага рэгламенту.

Ужо больш за год у Мытным союзе (МС) дзейнічае новы тэхнічны рэгламент на прадукцыю лёгкай прамысловасці (ТР МС 017/2011 "Аб бяспечнасці прадукцыі лёгкай прамысловасці). Згодна з ім, рэчы, якія дакранаюцца да скуры, павінны быць прамаркіраваныя адзіным знакам звароту на рынку МС ці мець сертыфікат адпаведнасці бяспекі і якасці. Іншыя прадметы гардэроба з тканіны павінны мець дэкларацыю аб адпаведнасці.

**Аксана ПЯРШАЕВА,**
**галоўны дзяржаўны інспектар Інспекцыі дзяржстандарту па Мінскай вобласці і г. Мінску, г. Маладзечна.**

СВЯТЫ

# Маладзечанцы ядуць самы лепшы хлеб

**РЭГІЁН. Самы лепшы хлеб у Беларусі пякуць у Маладзечне, але ў перапрацоўчай прамысловасці і сельскай гаспадарцы ёсць яшчэ над чым працаваць. Хаця б дабівацца добрых надояў.**

Пра гэта гаварылі на маладзечанскім раённым свяце работнікаў сельскай гаспадаркі і перапрацоўчай прамысловасці аграпрамысловага комплексу, якое адбылося 15 лістапада.

У Маладзечне, якое пазалетась прымала рэспубліканскія "Дажынкі", а летась абласныя, свята прайшло ў сваім, раённым, коле. Справаздачу аб тым, як адпрацаваў гэты год аграпрамысловы комплекс, дакладаў першы намеснік старшыні райвыканкама, начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання **Генадзь Бажко**. Ён свабодна аперыраваў лічбамі вынікаў па гаспадарках, а не чытаў іх з паперы, і дзякаваў усім, хто працуе для таго, каб на сталах была якасная і смачная ежа. Імкнуўся сказаць добрае слова ў адрас прадпрыемстваў і арганізацый, якія адзначалі свята.

Генадзь Іванавіч звярнуў увагу на паспяховасць спраў на малочным камбінаце. Наконт камбіната хлебапрадуктаў першы намеснік сказаў:

– Гэта наймагутнае наша прадпрыемства. Менавіта тут сканцэнтравана 80% вытворчасці нашай свініны. Абставіны, напэўна, будуць накіроўваць нас канцэнтраваць вытворчасць свініны на гэтым прадпрыемстве. Камбінату вельмі складана ў цяперашніх умовах крэдытавання. Тым не менш, яно вытрымлівае свае функцыі і поўнае рашучасці мадэрнізацыі.

Гаворачы пра маладзечанскі хлебазавод, Генадзь Бажко заўважыў:

– Паглядзіце, якое цудоўнае прадпрыемства. Яны правялі мадэрнізацыю, узялі новую тэхналогію. Дзякуючы працаўнікам вёскі мы маем цудоўную пшаніцу, якая можа прайсці праз новае абсталяванне і ў выніку атрымаецца тавар. Я бяру на сябе смеласць і кажу вам упэўнена: мы з вамі ядзім самы лепшы хлеб і булачныя вырабы ў Беларусі.

У яго дакладзе было месца і гумару:

– Маліноўшчына добра дае ў бюджэт. Добра дапамагае вельмі цэнным нам прадуктам. Не ведаю, пра што вы падумалі, я маю на ўвазе барду, якую мы выкарыстоўваем у вытворчасці.

Напрыканцы выступлення ён адзначыў, што духоўнасць і культура грамадства вызначаецца стаўленнем і пашанай да працы хлебароба.

Старшыня райвыканкама **Аляксандр Яхнавец** таксама павіншаваў хлебаробаў:

– Будаўнікі не будуць працаваць, калі яны галодныя, усе мы пасля працы адчыняем халадзільнік. Хацелася б, каб галоўны святочны каравай быў больш важкім. Зразумела, што цяжкі год, але рэзервы ў нас ёсць. Скажу адкрыта, што надоі ў нас слабыя, і ўраджай мог бы быць лепшы. Трэба нам з вамі працаваць лепш. Тым не менш, я вельмі дзякую работнікам сельскай гаспадаркі за складанейшую працу і нізкі ім паклон.

У Ашмянах, дзе ладзілі абласныя "Дажынкі", 15 лістапада адкрылі фізкультурна-аздараўленчы комплекс.

Ва ўсіх раёнах на мінулым тыдні прайшло свята да Дня работнікаў сельскай гаспадаркі і перапрацоўчай прамысловасці аграпрамысловага комплексу.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Падчас мерапрыемства ў Палацы культуры.

ТВОРЧАСЦЬ

# Народны тэатр "Метамарфозы" адзначыў юбілей на сцэне

**МАЛАДЗЕЧНА. 50-годдзе прысваення аматарскаму тэатру "Метамарфозы" звання народнага калектыў тэатра адзначыў прэм'ерай спектакля па п'есе Уільяма Гібсана "Стваральніца дзіва".**

Прэм'ера адбылася 18 лістапада ў Палацы культуры.

Рэжысёр-пастаноўшчык спектакля **Андрыян Барткевіч** напярэдадні прэм'еры сказаў, што спектакль гэты пра любоў і спачуванне. Пра тое, што бязмежнай любоўю можна і нашкодзіць чалавеку.Спектакль пра мудрасць і цярпенне, пра мужнасць і вытрымку педагога, якому давядзецца выхаваць гэтыя якасці ў сабе, каб потым пераўтварыць сваю вучаніцу з "жывёліны" ў асобу.

Гераіня спектакля – сляпая і глуханямая дзяўчынка. Праз хваробу яна пазбаўленая магчымасці бачыць і чуць. Бацькі шкадуюць яе і ва ўсім патураюць. Дзяўчынка расце капрызнай, непаслухмянай. І аднойчы ў доме з'яўляецца настаўніца, якая цягам двух тыдняў абяцае зрабіць з дзяўчынкі зусім іншага чалавека…

Ролю сляпой дзяўчынкі Элен Келер выканала **Алена Бойка**. **Тацццяна Кляміцяч** выканала галоўную ролю ў спектаклі, ролю настаўніцы сляпой дзяўчынкі Энн Саліван, якой давялося не толькі змагацца з хваробай дзяўчынкі, але і з любоўю і шкадаваннем бацькоў, якія пакалечылі дзяўчынку ці не болей за саму хваробу.

На працягу спектакля акцёры трымалі зал у напрузе. Асабліва цяжкай была сцэна, у якой Энн Саліван (настаўніца) распавядае пра сваё жыццё ў клініцы для разумова адсталых людзей, куды бацькі Келеры, "ад вялікай любові" хочуць адправіць сваю дачку Элен:

– Мы з братам Джымі гулялі з пацукамі, у нас ніколі не было іншых цацак. Можа, вы хочаце ведаць, што будзе з Элен паміж днямі наведванняў? Дык паслухайце – адна палата была забітая калекамі, сляпымі…Праз калідор знаходзіліся больш маладыя, шмат прастытутак, сухотных, эпілептыкаў, некаторыя былі вар'ятамі. Самыя маладыя былі ў іншай палаце, нараджалі дзяцей, якіх не хацелі мець. Потым яны сыходзілі, а немаўляты заставаліся, і мы гулялі з імі, хаця многія былі пакрытыя болькамі ад хвароб, пра якія не прынята казаць. Не так ужо шмат з іх выжыла. У першы год было восемдзесят немаўлятаў, семдзесят з іх памерлі. Пакой, у якой мы з Джымі гулялі, служыў трупярный. Там складвалі трупы, пакуль не выкопвалі для іх магілы…

Адзінае, аб чым я шкадую, што спектакль доўжыўся ўсяго гадзіну. Але гэтай гадзіны было дастаткова, каб адчуць, што адзінае (вывучанае за доўгія два тыдні) слова "вада" можа стаць штуршком, з якога пачнецца пераўтварэнне з істоты ў чалавека.

Водгукі гледачоў на спектакль "Стваральніца дзіва" глядзіце на сайце rh.by

**Наталля ТУР.**

ЭКАНОМІКА

# У новым годзе зменіцца базавая велічыня

**БЕЛАРУСЬ. Пра гэта 14 лістапада распавёў намеснік міністра фінансаў Максім Ермаловіч падчас выступлення на сумесным пасяджэнні некалькіх камісій Палаты Прадстаўнікоў.**

Базавая велічыня павялічыцца на 20 тысяч і вырасце ад 130 да 150 тысяч рублёў.

Разам з базавай велічынёй павялічацца і некаторыя сацыяльныя выплаты, прывязаныя да яе: дапамогі, стыпендыі, прэміраванні, надбаўкі, даплаты. Таксама штрафы рознага кшталту і дзяржаўныя пошліны.

Цяпер у Беларусі базавая велічыня – 130 тысяч. Апошні раз яна павялічвалася сёлета 1 кастрычніка і ад 100 тысяч дарасла да гэтай лічбы.

Паняцце "базавая велічыня" ў краіне ўвялі ў 2002 годзе. Першая была роўная 10 тысячам рублёў. Ад таго часу яна штогод расце, а часам і па некалькі разоў на год.

Цікава, што ў часы, калі функцыю сённяшняй базавай велічыні выконвала мінімальная зарплата (МЗП), у 1997 годзе МЗП ужо раўнялася 130 тысячам рублёў.

Праўда, гэта было да дэнамінацыі 2000 года. Тады рубель падзешавеў у 1000 разоў.

## Рост базавай велічыні ў часе




За 11 гадоў базавая велічыня вырасла ад 10 да 130 тысяч рублёў.

## Што можна было набыць за базавую і МЗП?

| | 2013 год<br>130 тысяч рублёў<br>(базавая велічыня) | 1997 год<br>130 тысяч рублёў<br>(мінімальны заробак) | 2013 год<br>1 мільён 466 тысяч рублёў<br>(мінімальны заробак) |
|---|---|---|---|
| хлеб або | 21 буханка | 40 буханак | 244 буханкі |
| малако, або | 18 літраў | 36 літраў | 209 літраў |
| свініна | 2,2 кілаграма | 2,5 кілаграма | 25 кілаграмаў |

Інфаграфіка Настассі РОЎДЫ.

### Што можна было набыць за 130 тысяч ў 1997-м, а што – сёння

У студзені 1997 года ў "Рэгіянальнай газеце" мы казалі чытачам пра павелічэнне мінімальнага заробку да 130 тысяч рублёў. Разам з тым, параўноўвалі, што можна было набыць за тыя грошы.

Сёння мінімальны заробак у Беларусі – 1 мільён 466 тысяч 230 рублёў. Ён павялічыўся сёлета ў кастрычніку з 1 мільёна 195 тысяч рублёў.

Што можна было набыць за 130 тысяч рублёў у 1997-м годдзе, а што можна набыць цяпер, глядзіце на малюнку.

**Настасся РОЎДА.**

| Курсы валют НБ РБ | 14.11 | 21.11 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 9 270,00 | **9 290,00** |
| Еўра | 12 460,00 | **12 580,00** |
| Злоты | 2 962,04 | **3 005,55** |
| Літ | 3 606,86 | **3 642,49** |
| Расійскі рубель | 282,50 | **283,50** |
| Грыўня | 1 129,52 | **1 131,03** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Долар ЗША | 9270/9330 | **9290/9350** |
| Еўра | 12450/12550 | **12570/12670** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 13.11 | 20.11 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 106000 | **105700** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 44000 | **45600** |
| **Ялавічына**, (выразка), 1 кг | 70000 | **75000** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 22300 | **22950** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 23800 | **23800** |
| **Селядзец**, 1 кг | 32500 | **25000** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 90000 | **89000** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 11500 | **10900** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 8500 | **8000** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 12500 | **12000** |
| **Алей** | 15300 | **15000** |
| **Маянэз**, 200 г | 5000 | **5000** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 7300 | **7000** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 30000 | **28000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 9700 | **11500** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 5500 | **5500** |
| **Капуста**, 1 кг | 2300 | **2500** |
| **Морква**, 1 кг | 5000 | **4500** |
| **Буракі**, 1 кг | 5000 | **4500** |
| **Лімоны**, 1 кг | 19000 | **18000** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 18500 | **16600** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 18000 | **13000** |
| **Памідоры**, 1 кг | 8000 | **10000** |
| **Агуркі**, 1 кг | 28500 | **23000** |
| **Перац**, 1 кг | 35000 | **35000** |
| **Вінаград**, 1 кг | 19500 | **19500** |
| **Бананы**, 1 кг | 12000 | **12000** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 12000 | **8000** |
| **Грушы**, 1 кг | 12000 | **14500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 13000 | **12000** |
| **Масла**, 1 кг | 70000 | **75000** |
| **Тварог**, 1 кг | 40000 | **40000** |
| **Бульба**, 1 кг | 4000 | **4000** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 18000 | **18000** |
| **Мёд**, 0,5 л | 50000 | **45000** |

У КАМІТЭЦЕ ДЗЯРЖКАНТРОЛЮ

# Карупцыю знайшлі і ў бальніцы

## У маладзечанскай ЦРБ і яшчэ на трох прадпрыемствах знайшлі парушэнні антыкарупцыйнага заканадаўства

**МАЛАДЗЕЧНА. Парушэнні антыкарупцыйнага заканадаўства выявілі на таварыствах "Купала-Агра", "Маладзечанскі райаграсэрвіс", "Маладзечнапіва", а таксама ў маладзечанскай цэнтральнай раённай бальніцы.**

Сёлета па выніках трох праверак выканання заканадаўства аб барацьбе з карупцыяй пракуратура Маладзечанскага раёна вынесла чатыры прадстаўленні, чатыры асобы прыцягнуты да дысцыплінарнай адказнасці.

У тым ліку адзін звольнены, да матэрыяльнай адказнасці на суму 2 мільёны 684 тысячы рублёў прыцягнутая адна асоба, узбуджаная адна крымінальная справа.

30 кастрычніка адбылася каардынацыйная нарада па барацьбе са злачыннасцю і карупцыяй Маладзечанскага раёна. У ёй прынялі ўдзел пракурор **Уладзімір Дубоўскі**, старшыня райвыканкама **Аляксандр Яхнавец**, старшыня суда **Сяргей Літвіновіч**, начальнік Маладзечанскага УКДБ па Мінску і Мінскай вобласці **Дзмітры Ананіч**, начальнік райаддзела міліцыі **Валянцін Асіповіч**, начальнік раённага аддзела Следчага камітэта **Пётр Варачкоў**, начальнік гаррайаддзела па надзвычайных сітуацыях **Вячаслаў Грынь**, начальнік маладзечанскага міжрайаддзела упраўлення дэпартамента фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржкантролю па Мінску і Мінскай вобласці **Віктар Бройка**.




Маладзечанскія прадпрыемствы злавілі на карупцыі.

На нарадзе разглядзелі пытанне аб мерах па супрацьдзеянні карупцыі і эканамічных злачынствам, а таксама па рабоце Маладзечанскага гаррайаддзела па надзвычайных сітуацыях, іншых зацікаўленых арганізацый па прафілактыцы пажараў, гібелі і траўмаванні людзей у іх.

Адным з пунктаў рашэння каардынацыйнай нарады па барацьбе са злачыннасцю і карупцыяй стала тое, што пры ўстанаўленні падчас праверак фактаў карупцыйных правапарушэнняў і правапарушэнняў, якія ствараюць умовы для карупцыі (але не цягнуць крымінальнай адказнасці), у 10-дзённы тэрмін накіроўваць адпаведную інфармацыю ў пракуратуру раёна. Там будзе вырашацца пытанне аб прыцягненні вінаватых да адказнасці.

**Таццяна УЛІЦКАЯ,**
**старшы памочнік пракурора Маладзечанскага раёна.**

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Двое маладзечанцаў загінулі ў аварыі

**МАЛАДЗЕЧНА. ВІЛЕЙКА. Трагедыя адбылася ў пятніцу, 15 лістапада, непадалёк ад вёскі Даўгінава на Вілейшчыне.**

Папярэднюю інфармацыю даў намеснік начальніка РАУС, начальнік міліцыі грамадскай бяспекі **Андрэй Дударчык**.

Трое мужчын, жыхароў Маладзечна, ехалі з горада ў вёску Бубны. Тым часам кіроўца ГАЗа хлебазавода выязджаў з Даўгінава ў Вілейку. Ён парушыў правілы і ўехаў у аўтамабіль маладзечанцаў.

Адзін з мужчын загінуў на месцы. Другі – па дарозе ў бальніцу. Трэці выжыў. З машыны іх даставалі супрацоўнікі МНС, давялося разразаць аўтамабіль.

Кіроўца ГАЗа таксама застаўся жывы.

**Настасся РОЎДА.**

## Зберажыце ўраджай цукровых буракоў

**МАЛАДЗЕЧНА. Дзяржаўтаінспекцыя Маладзечна нагадвае кіраўнікам прадпрыемстваў аграпрамысловага комплексу і кіроўцам, якія перавозяць сельгаспрадукцыю, выконваць патрабаванні падчас яе перавозкі.**

Аўтамабілі для перавозкі неабходна абсталяваць спецыяльнымі тэнтамі. У час руху трэба ўлічваць асаблівыя ўмовы надвор'я: дождж, туман, цёмны час сутак.

Папярэджваем, што, калі цукровыя буракі і іншая сельгаспрадукцыя будуць высыпацца на праезную частку дарогі, а таксама калі ДАІ выявіць халатнае стаўленне службовых асоб і кіроўцаў АПК да выканання сваіх службовых абавязкаў, то адказныя асобы будуць прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці, згодна з артыкулам 18.35 Кодэкса аб адміністрацыйных парушэннях.

Такіх правілаў варта прытрымлівацца, каб захаваць сельгаспрадукцыю, у прыватнасці цукровыя буракі.

**Сяргей БАРТОШ,**
**дзяржаўтаінспектар Маладзечанскага райаддзела міліцыі.**

## Паважаныя кіроўцы!

**МАЛАДЗЕЧНА. Ад 20 да 29 лістапада транспартная інспекцыя Мінтранса праводзіць агульнарэспубліканскую дэкаду "Дзяржтэхагляд" па кантролі за своечасовасцю праходжання дзяржаўнага тэхнічнага агляду транспарту.**

Дэкада ладзіцца для таго, каб узмацніць прафілактычныя работы з уласнікамі транспарту з мэтай бяспекі на дарозе.

**Сяргей БАРТОШ,**
**дзяржаўтаінспектар Маладзечанскага райаддзела міліцыі.**

СЛУЖБА 101

## У пажары загінулі маці і дачка. Сын – у рэанімацыі

**АСТРАВЕЦ. Трагедыя адбылася 16 лістапада, каля 7.30, у вёсцы Дравенікі.**

У МНС у суботу раніцай патэлефанавалі суседзі жыхароў дома, дзе пачаўся пажар. Па іх словах, там былі людзі.

Калі прыехалі выратавальнікі, дах драўлянага дома гарэў цалкам. Праз 10 хвілін побач з ложкам знайшлі загінулую гаспадыню дома. Жанчыне было 75 гадоў. Пазней – яе 35-гадовую дачку, якая ляжала на ложку. Разам з імі жыў і сын загінулай гаспадыні. Але ў гэты час ён быў у суседзяў.

Убачыўшы, што гарыць дом, сам спрабаваў выратаваць маці і сястру, ведаючы, што яны ўнутры. Аднак у яго не атрымалася: у цяжкім стане, з апёкамі твару, рук і верхніх дыхальных шляхоў, 37-гадовы мужчына трапіў у рэанімацыйнае аддзяленне Астравецкай ЦРБ.

Магчыма, пажар здарыўся, бо гаспадары пакінулі запаленую свечку. У доме не было электрычнасці. У сям'і ніхто не працаваў, усе яны злоўжывалі алкаголем.

Пра здарэнне паведаміў інспектар групы прапаганды і навучання Астравецкага райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Алег Шыць**.

**Настасся РОЎДА.**

СЛУЖБА 104 ІНФАРМУЕ

**У гэтым годзе ацяпляльны сезон пачаўся раней, чым звычайна. З паніжэннем тэмпературы навакольнага паветра ўладальнікі індывідуальных жылых дамоў пачалі рэгулярна выкарыстоўваць ацяпляльныя газавыя катлы і воданагравальнікі. Аднак пры гэтым не заўсёды выконваюцца элементарныя патрабаванні правілаў бяспекі. Кожны год на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь рэгіструецца вялікая колькасць выпадкаў атручэння людзей чадам.**

Пры спальванні газавага паліва пры недастатковым паступленні паветра (закрытая фортачка, няспраўная вентыляцыя ) з прычыны няпоўнага згарання вылучаецца чад, які пры працы газавага ацяпляльнага абсталявання сыходзіць у спецыяльна абсталяваныя дымавыя каналы. Пры іх няспраўнасці прадукты няпоўнага згарання могуць трапляць у памяшканне, дзе ўсталяваныя газавыя прыборы. З прычыны чаго можа адбыцца атручэнне чадам. Ён, у адрозненне ад бытавога газу, не мае паху і з'яўляецца моцнадзейным ядам.

## Памятка для тых, хто карыстаецца газавымі катламі і воданагравальнікамі

Так, сёлета 3 лістапада адбылося атручэнне двух чалавек прадуктамі няпоўнага згарання ад ацяпляльнага катла АОГВ-11,6 у горадзе Ваўкавыску. Прычынай атручэння паслужылі неабачлівыя дзеянні жыхароў кватэры, якія ў міжацяпляльны перыяд ўсталявалі ў месцы злучэння дымаадводнага патрубка з катлом дзве пласціны, перакрыўшы тым самым цягу ў коміне. Пры ўключэнні катла з пачаткам ацяпляльнага сезона гэтыя пласціны не былі прыбраныя. Па гэтай прычыне пры працы катла спрацавала аўтаматыка па цязе. Аднак жыхары заблакавалі кнопку электрамагнітнага клапана ў становішчы "адкрыта". У выніку прадукты згарання выходзілі ў памяшканне кухні, што прывяло да цяжкага атручэння чадам гаспадыні кватэры і яе сына.

Адной з асноўных прычын няспраўнасці дымавых каналаў з'яўляецца засмечванне коміна. Коміны забруджваюцца сажай, засыпаюцца смеццем, часам у іх трапляюць птушкі, руйнуецца цагляная кладка.

Нагадваем, што наяўнасць у паветры ўсяго 1% чаду – смяротная канцэнтрацыя для чалавека. У прадуктах згарання змяшчаецца вадзяная пара, які кандэнсуецца на халодных паверхнях коміна. У зімовы перыяд гэта можа прывесці да абмярзання аґалоўкаў комінаў і вентыляцыйных каналаў, іх закарканванні і як вынік – пранікненне чаду ў памяшканне.

**Каб пазбегнуць няшчасных выпадкаў, нагадваем:**

- дымавыя і вентыляцыйныя каналы неабходна перыядычна правяраць;
- уладальнікі жылых дамоў і кватэр, дзе ўсталяваныя газавыя катлы і газавыя воданагравальнікі, абавязаныя адзін раз у год, а ў выпадку дымавых каналаў, выкананых з цэглы, – адзін раз у 3 месяцы выклікаць прадстаўніка спецыялізаванай арганізацыі для праверкі дымавых і вентыляцыйных каналаў. Атрымаць акт, які пацвярджае іх спраўнасць;
- забараняецца ўключаць газавыя ацяпляльныя катлы і воданагравальнікі пры няспраўнай аўтаматыцы бяспекі і пры адчуванні паху газу ў памяшканні;
- газ у сумесі з паветрам – выбуховапажаранебяспечны.
- Перад распальваннем катла або воданагравальніка неабходна абавязкова праверыць наяўнасць цягі ў коміне (вентыляцыйным канале);
- памяшканне, у якім устаноўленыя газавыя прыборы, павінна рэгулярна праветрывацца;
- забаронена ўсталёўваць у памяшканні топачнай душавыя кабіны , ванны, санвузлы;
- забараняецца пакідаць без нагляду уключаную газавую пліту;
- забараняецца сушыць рэчы над полымем газавай гарэлкі;
- газавае абсталяванне заўсёды трэба трымаць у чысціні і спраўным стане.

**Паважаныя абаненты, не падвяргайце сваё жыццё небяспецы.**

**МВУ "Маладзечнаміжрайгаз"**
УНП 100008077

ТВОРЧАСЦЬ

# Драмтэатр рыхтуе да паказу містэрыю-буф



Мalюнак забяспечаны Міхалам ДЗІНАВЫМ.

Цяпер у драмтэатры распрацоўваюцца макеты дэкарацый.



Малюнак забяспечаны Міхалам ДЗІНАВЫМ.

Распрацаваны на кам'ютары вобраз маці.

**МАЛАДЗЕЧНА. Што гэта? "Боская камедыя" з сумным адценнем па Ганне Балаш.**

Распавядае мастацкі кіраўнік Мінскага абласнога драматычнага тэатра **Мікалай Дзінаў**.

– Жанравае азначэнне – сучасная містэрыя-буф, камедыя з сумным адценнем. Пра тое, як мы не ўмеем жыць і беражліва ставіцца адзін да аднаго. Мы не знаходзім агульнай мовы. Мы развучыліся дабром адказваць на дабро. Мы ўсяму развучыліся.

## У чым тут сутнасць

– У аўтара п'еса напісаная як бытавая камедыя. Але тут ёсць і такі персанаж, як Бог. Тэма касмічная, тычыцца ўсяго свету. Пакуль на Зямлі не будзе адзінага Бога, я называю гэта пандэміяй, сусветнай эпідэміяй расколу, мір не наступіць. Пра гэта тут таксама. Аднак што б ні адбывалася на Зямлі, колькі б ні спрабавалі яе раскалоць, яна круціцца.

## Рэжысёр паказвае шкілет

– У касмічных межах утвараецца нейкая кватэра. У ёй – маці, яе дачка і зяць.

Маці-адзіночка дзеля таго, каб выгадаваць дачку, ахвяравала сваім поспехам – кар'ерай опернай спявачкі. А выйшла ні рыба, ні мяса. Муж дачкі ўвесь час збірае грошы і толькі тым і заняты. Разам яны сядзяць на шыі ў старой, якая ўжо пенсіянерка.

Тут жанчына разумее: навошта яна ахвяравала сваёй кар'ерай, дзеля чаго? І вырашае пазбавіць дачку і зяця спадчыны. Падгаворвае псеўдаэкстрасэнса Ірму і робіць выгляд, што яе абакралі. Сама ж на гэту шарлатанку перапісвае завяшчанне.

Бог за ўсім гэтым назірае, разумее, што нічога не можа зрабіць, і сыходзіць. Але кожнае злодзейства павінна быць пакаранае, і жанчына ў рэшце рэшт губляе голас. І вось што рабіць з гэтым завяшчаннем?

Тэатр не адказвае на пытанні, – робіць акцэнт Мікалай Дзінаў. – Ён толькі ставіць іх. Вядома, у спектаклі ўсё нашмат танчэй, гэта я вам шкілет паказваю.

## У галоўных ролях

Маці-адзіночку іграе **Эмілія Ларыёнава**. Яна займаецца вакалам яшчэ з мінулага сезона: спявае і рамансы, і шансон.

– У аўтара па п'есе маці спявае піянерскія песні, – распавядае рэжысёр. – Іх там, можа, 15. Аднак за такую музыку давядзецца плаціць. Таму я ўсё перавёў на іншую мову – мову оперы, рамансa ды шансона. Жоржу Бізэ грошы плаціць не трэба.

Ролю дачкі выконвае **Людміла Рошчына**, зяця – **Андрыян Барткевіч**, шарлатанкі – **Іра Кляпацкая**, Бога – **Сяргей Карзей**.

## Чаму павінна навучыць п'еса?

– Няўжо мастацтва вучыць чаму-небудзь? Вучыць школа, праўда, дрэнна... – працягвае Мікалай Дзінаў. – Задумацца трэба, разумееце?

Мы самі такія ж, як гэтыя героі. Мне падаецца, што ўжо на генетычным узроўні атрафіраванае пачуццё ўдзячнасці. Мы не ўмеем быць ўдзячнымі: лёсу, сваёй біяграфіі, бацькам і гэтак далей. Вы гэтага не заўважаеце?

Біблейская запаведзь кажа: палюбі блізкага свайго, як самога сябе. Дык з чаго трэба пачынаць? З сябе. Сябе трэба палюбіць. Я не супраць эгацэнтрызму, але ў разумных межах. Калі мы не будзем любіць сябе, не палюбім і сваіх блізкіх, і не вельмі блізкіх, і далёкіх. Для мяне асабіста, гэта праблема праблем. Часам і сябе на гэтым лаўлю, і іншых. І няма таму канца.

Ведаеце, як гэта павінна быць на сцэне? Падаецца смешна, смешна, смешна, а потым раз – сляза пацякла. Тады мы нечага дасягнем.

**Настасся РОЎДА.**

ГІСТОРЫЯ

# Выставу адкрывалі рускія і нямецкія салдаты ды Іван Айплатаў

**МЯДЗЕЛ. У нядзелю, 17 лістапада, ля музея Народнай славы праходжваліся салдаты ў форме часоў Першай сусветнай вайны, гучалі песні тых гадоў.**

Гэта адкрывалася выстава "Першая сусветная вайна – рэха памяці".

На адкрыццё прыехалі ўдзельнікі мінскіх груп ваенна-гістарычнай рэканструкцыі "Эпоха", "Таварышы па зброі", "54-ы Мінскі пяхотны полк Рускай імператарскай арміі".

– Я ў форме радавога 119-га Каломенскага пяхотнага палка. Ён размяшчаўся ў Мінску і камплектаваўся ўраджэнцамі Мінскай губерні, – расказвае удзельнік групы "Эпоха" Сяргей. – Мяне цікавіць гісторыя ваеннага касцюма, у прыватнасці, Першай сусветнай, бо гэта вайна забытая для нас. А мы ж стаім на зямлі, якая такія бурныя падзеі перажыла.

На адкрыцці было пароўну салдат у форме рускай і нямецкай арміі. Напрыклад, **Сяргей Захараў** прадстаўляў 75-ю рэзервовую дывізію 250-га рэзервовага палка кайзераўскай арміі, салдаты якой якраз ваявалі на тэрыторыі Мядзельшчыны.

– Мы займаемся гісторыяй уніформы не толькі Германіі. Але калі разглядаць рускую армію, то яна ж з некім ваявала, – тлумачыць ён. – І калі рускага салдата людзі яшчэ неяк уяўляюць, то нямецкага – даволі слаба. А як можна паказаць людзям, як выглядаў нямецкі салдат? Самы лепшы варыянт – апрануць форму. Лепш адзін раз убачыць, чым сто разоў пачуць.

Госці з Мінска расказалі пра гісторыю палкоў, форму якіх рэканструявалі, пра тое, як мянялася форма з пачаткам ваенных дзеянняў – усё рабілася для таго, каб была менш заўважнай і больш простай і зручнай. Адказалі на пытанні наведнікаў, падзяліліся інфармацыяй пра ваенныя дзеянні на Мядзельшчыне.

На выставе можна пабачыць узоры абмундзіравання, амуніцыі, узнагароды і знакі адрознення, а таксама прадметы побыту вайскоўцаў рускай і нямецкай армій. Гэта экспанаты з фондаў музея і прыватнай калекцыі патомнага казака з Мінска **Ігара Бабіцкага**. Завітаў калекцыянер у Мядзел не адзін: яго сын Арцём паказаў тут уменне ўпраўляцца з шашкай. Прыехаў і добры знаёмы Ігара Бабіцкага – вядомы беларускі дызайнер **Іван Айплатаў.** Дарэчы, ён стварыў адзін з экспанатаў – форму юнага казака.

Дырэктар музея **Святлана Чарняўская** расказала, што гэта выстава пачынае цыкл мерапрыемстваў, прымеркаваных да 100-годдзя Першай сусветнай вайны. Пазнаёміцца з выставай можна будзе да Новага года.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Рускія і нямецкія салдаты на адкрыцці выставы (сучасная рэканструкцыя).



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

З экспанатамі знаёмяцца вучні Камароўскай школы.

ПАЗАШКОЛЬНЫ ЧАС

# У школьных музеях захоўваюцца скарбы

**РЭГІЁН. Мала хто ведае, што ў навучальных установах гарадскіх і маленькіх вясковых школ працуюць музеі, у якіх захоўваюцца сапраўдныя скарбы.**

Але яны закрытыя для шырокага кола гледачоў.

Мы вырашылі прыадчыніць таямніцу таго, што хаваецца за шыльдай “Школьны музей”



Фота Наталлі ТУР.

Кіраўніца музея баявой славы маладзечанскай СШ №1 Марыя Буневіч.

### Кіраўнік музея: “Нам ёсць што паказаць! Дайце нам памяшканне!”

Сярэдняя школа №1 імя Янкі Купалы ў Маладзечне багатая аж на тры экспазіцыі музея. Тут дзейнічае музей баявой славы, прысвечаны вызваленню горада Маладзечна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, музейны пакой, прысвечаны гісторыі школы, і музейны пакой Янкі Купалы.

– Музейны пакой Янкі Купалы адчыніў свае дзверы ў 1960 годзе, – распавядае кіраўнік музея **Раіса Раманоўская.** – Экспанаты для пакоя знаходзілі настаўнікі і вучні школы. Мы не можам прэтэндаваць на статус музея, але мы робім усё, каб наш пакой быў цікавы не толькі вучням нашай школы, але і гасцям. Я працую кіраўніком музея ўсяго чацверты месяц, таму пакуль сваёй асноўнай задачай я лічу разабрацца ва ўсім багацці нашых экспанатаў. Вялікую частку экспазіцыі складаюць прадметы сялянскага быту 19-20 стагоддзяў. Цяпер вядзецца пошук звестак пра тое, для чаго гэтыя прылады маглі выкарыстоўваць.

**– А які экспанат вашага музейнага пакоя ўяўляе менавіта для вас асаблівую каштоўнасць?**

– Для мяне каштоўны па-свойму кожны экспанат, які трапляе да нас. Але больш за ўсё душа ляжыць да пейзажа мастака **Канстанціна Харашэвіча** “Вязынка”.

**– Скажыце, ці шмат наведнікаў вашага пакоя?**

– У нашым музейным пакоі праводзяцца ўрокі, конкурсы, літаратурныя чытанні. Мы цесна супрацоўнічаем з Дзяржаўным літаратурным музеям Янкі Купалы, супрацоўнікі якога даволі часта бываюць у нас у гасцях.

### “У нашым музеі дзеці любяць прымяраць каскі!”

Адкрыццё музея баявой славы было прымеркаванае да 30-годдзя вызвалення горада Маладзечна ў 1974 годзе.

– Экспазіцыя музея пачала стварацца з уласных рэчаў тых, хто вызваляў Маладзечна, – распавядае **Марыя Буневіч**, кіраўнік музея.

У нашай калекцыі лісты з фронту, уласныя рэчы, узнагароды, газеты тых часоў. Самыя старэйшыя экспанаты – гэта штык-нажы яшчэ часоў Першай сусветнай вайны.

Ёсць у нас і самаробныя драўляныя чаравікі, што насілі вязні канцлагераў.

Пра наш музей ведаюць у горадзе, ваенныя каскі з нашага музея браў тэатр для сваёй пастаноўкі. За гэта яны адрэстаўравалі нам нямецкую каску, пафарбавалі яе. Цяпер дзеці, што прыходзяць на экскурсіі, вельмі любяць прымераць ваенныя атрыбуты. Усяго ў нашай калекцыі каля 360 экспанатаў.

**– Сёння калекцыя папаўняецца?**

– На жаль, не. Раз-пораз з’яўляюцца некаторыя новыя рэчы, вось як футарал ад снарада, што быў перададзены нам у музей жыхаром нашага горада. Ён набыў вясковую хатку, а там на гарышчы знайшоў гэты футарал.

Сёння мы займаемся стварэннем экспазіцыі па гісторыі школы. У калекцыі шмат фотаздымкаў. Напрыклад, у нас ёсць фотаздымак 1942 года, на якім перад драўляным будынкам школы сядзяць дзеці, выпускнікі 1943 года. Такім чынам, афіцыйная версія пра тое, што школу падчас вайны немцы закрылі, зрабілі тут канюшню, не зусім праўдзівая. На той час школа мела некалькі будынкаў, вось у адным з іх заняткі ішлі і ў ваенны час.

Адной з найцікавейшых старонак нашага музея з’яўляецца аповед пра настаўніцу нямецкай мовы **Алену Кац**. Яна прайшла ўсю вайну, была перакладчыцай. Пасля яе заканчэння прыйшла ў нашу школу працаваць настаўніцай. Пад яе кіраўніцтвам ладзіліся шматлікія сустрэчы з ветэранамі, паездкі ў гарады-героі.

Пасля сваёй смерці ў спадчыну нашаму музею яна завяшчала перадаць усе баявыя ўзнагароды, што і зрабіла дачка Алены Максімаўны. Некаторыя з узнагародаў настолькі каштоўныя, што мы нават не можам іх паказаць у экспазіцыі. Надзейна захоўваем у сейфе.

У кожнага нашага экспаната свая гісторыя і свой лёс. Я спадзяюся на тое, што калі-небудзь у нас будзе магчымасць распавядаць пра іх не толькі вучням школ горада і раёна.

ГІСТОРЫЯ АДНАГО ЭКСПАНАТА

## Пра самыя цікавыя рэчы сваіх экспазіцый распавядаюць кіраўнікі школьных музеяў

### ВІЛЕЙКА. Кальчуга – аднагодка вёскі Ілья

Не так даўно нашымі школьнымі краязнаўцамі непадалёк ад вёскі Ілья быў знойдзены элемент металічнай кальчугі, – распавядае кіраўнік Ільянскага музея **Роза Шэрая**. – Узрост кальчугі нам пакуль высветліць не ўдалося, але гэту знаходку мы звязваем з легендай пра паходжанне назвы нашай вёскі. Аднойчы праз гэтыя месцы праходзіў вайсковец, апрануты ён быў у ахоўную кальчугу. Вайсковец спыніўся ля ракі, каб адпачыць. І тут яму ў сне з’явіўся прарок Ілья, які і параіў вайсковаму заснаваць на гэтым месцы паселішча. Таму мы мяркуем, што гэта кальчуга – аднагодка вёскі Ілья.

А калі гэта так, то кальчуга – самы старэйшы экспанат нашага музея, сёлета ёй споўнілася 540 гадоў, як і мястэчку Ілья.

### АСТРАВЕЦ. Гісторыя аднаго люстэрка

У музеі гімназіі №1 горада Астраўца ў экспазіцыі ёсць фотаздымак аднаго люстэрка. З гісторыяй гэтага дзіўнага экспаната дзеліцца з “РГ” **Вольга Лябецкая**, кіраўнік музея Астравецкай гімназіі.

Люстэрка належала жыхару нашага горада, ветэрану вайны **Зладзіславу Зладзіславічу Шыраеву**. Падчас вайны яно яго выратавала ад смерці. Было гэта так. Зладзіслаў Зладзіславіч у Вялікую Айчынную вайны быў снайперам. У той час, калі ён перазараджаў свой пяцізарадны карабін, яго раніла. Куля трапіла дакладна ў левы нагрудны кішэнь. А ў кішэні ляжала нямецкае трафейнае люстэрка, якое ўяўляла сабой бліскучую металічную пласціну. Ад гэтай пласціны смяротная куля рыкашэтам адскочыла ад сэрца і трапіла ў лёгкае. Такім чынам, люстэрка і захавала жыццё Зладзіславу Зладзіславічу. Само люстэрка і пасведчанне, на якім запяклася кроў Зладзіслава Шыраева, як самы найвялікшы скарб захоўваецца ў яго дачкі **Людмілы Шыраевай**. А наведнікі нашага музея бачаць толькі фота.

### МЯДЗЕЛ. Калькулятар, які нельга купіць

– Аналагаў нашаму музею айчыннай вылічальнай тэхнікі няма ва ўсім СНД. Калі толькі ў Пецярбургу, – расказвае кіраўнік музея **Вячаслаў Саўчык**. – У музеі прадстаўлена вылічальная тэхніка, якая выраблялася ў былым СССР. Адным з унікальных экспанатаў з’яўляецца калькулятар з запісной кніжкай і гадзіннікам “Электроніка МК-87”. Яго ўнікальнасць тлумачыцца тым, што ён у продаж так і не паступіў. А выпушчаны быў толькі для дэлегатаў 27 з’езда КПСС у 1986 годзе. І іх колькасць роўная колькасці ўдзельнікаў з’езда, недзе ля 8000 экзэмпляраў. Музею яго падарыў наш добры сябар **Ігар Бякцяшкін**.

**Наталля ТУР.**



Фота забяспечана Вольгай ЛЯБЕЦКАЙ

Люстэрка і пасведчанне, на якім запяклася кроў Зладзіслава Шыраева.

## Колькі школьных музеяў у нашым рэгіёне і хто тут лідар?

**Валожын.** На сённяшні дзень у раёне працуе **11 школьных музеяў:** восем гісторыка-краязнаўчых, два этнаграфічныя і адзін музей піянерскай славы. **Уладзімір Пучкоў**, кіраўнік музея сярэдняй школы №2 горада Валожына, адзначыў, што школьны музей другой школы, акрамя асноўнай экспазіцыі, унікальны тым, што тут рэканструяваны два жылыя пакоі пачатку XX стагоддзя: пакой заможнага гараджаніна і пакой беднага селяніна.

**Астравец.** У раёне працуюць **дзевяць музеяў**: шэсць краязнаўчых, два этнаграфічныя і адзін музей баявой славы ў школе вёскі Споны.

Акрамя гэтых музеяў, у школах Астравеччыны абсталяваны **сем музейных пакояў**.

**Мядзел.** У Мядзеле дзейнічаюць **восем музеяў**: тры гісторыка-краязнаўчыя, чатыры краязнаўчыя і адзін унікальны музей, які не мае аналагаў у Беларусі, музей айчыннай вылічальнай тэхнікі.

**Смаргонь.** Смаргонскі раён багаты на **13 школьных музеяў.** Асноўны напрамак усіх музеяў – гісторыка-краязнаўчы. Але існуе адзін музей этнаграфічны, на базе школы №6, і экалагічны музей у той жа школе. Да таго ж, Смаргонскі раён можа пахваліцца тым, што ажно тры музеі раёна маюць статус народных, – распавядае **Элеанора Язерская**, загадчыца сектара выхаваўчай і сацыяльнай работы аддзела адукацыі, спорту і турызму Смаргонскага райвыканкама.

**Маладзечна.** У школах Маладзечна і Маладзечанскага раёна працуе, як і ў Смаргонскім раёне, **13 музеяў**. Восем з іх краязнаўчыя, тры ваенна-гістарычныя, адзін музей агульнагістарычны. Музей вогненных і паветраных таранаў, што знаходзіцца ў Радашкавіцкай школе-інтэрнаце, мае статус народнага, – паведаміла **Сабіна Собаль**, метадыст Маладзечанскага аддзела адукацыі.

**Вілейка.** Лідар па колькасці школьных музеяў – Вілейскі раён. У 17 навучальных установах раёна працуюць **18 музеяў**. Краязнаўчых музеяў 12, этнаграфічныя – тры, а таксама па адным патрыятычным, экалагічным і літаратурным. Музей Ільянскай СШ мае статус народнага.

**Ашмяны.** На Ашмяншчыне працуюць **12 музеяў**, – расказвае **Тэрэса Кошань**, дырэктар цэнтра турызму і краязнаўства Ашмянскага раёна. У раёне працуюць шэсць гісторыка-краязнаўчых музеяў, два этнаграфічныя. Зусім нядаўна на базе трэцяй школы быў створаны музей спорту. Ёсць у раёне выдатны літаратурны музей Францішка Багушэвіча. Ён створаны на базе Жупранскай сярэдняй школы. Пяцідзесяцігадовы юбілей сёлета святкуе адзін з самых вядомых і старэйшых музеяў раёна – музей Гальшанскай сярэдняй школы.



**Наталля ТУР.**
E-mail:
turenok_08@mail.ru

■ **КОНКУРСЫ**

# У каледжы паказалі “Даліну руж” і “Хуткасць свету”

**ВІЛЕЙКА. 14 лістапада ў прафесійна-тэхнічным каледжы прайшло шоу дызайнерскага майстэрства “Формула моды ў фармаце FM”.**

Падчас праекта прадставілі калекцыю вячэрніх сукенак “Даліна руж” і калекцыю мастацкага роспісу па целе “Хуткасць свету”. Калекцыі распрацавалі, зрабілі і паказалі навучэнцы, выкладчыкі і майстры вытворчага навучання па спецыяльнасцях “Тэхналогія швейнай вытворчасці” і “Цырульніцкае майстэрства і дэкаратыўная касметыка”.

– Мода мяняецца штодзень, – кажа педагог-арганізатар **Святлана Мацукевіч**. – Добра гэта ці дрэнна? Ды па-рознаму. Але ёсць у гэтым модным калейдаскопе і тое, што будзе запатрабаванае ўвесь час. І на першым месцы – мода на сапраўдных спецыялістаў сваёй справы, майстроў, універсалаў, якія валодаюць сваёй прафесіяй. Таму наша формула моды такая: майстэрства, памножанае на прафесіяналізм і любоў да прафесіі.

**Аддзел інфармацыі.**
**Фота забяспечана Святланай МАЦУКЕВІЧ.**







**На фота: падчас конкурсу.**

ДА 150-ГОДДЗЯ ПАЎСТАННЯ 1863 ГОДА

# Мы жывём, каб вяртацца

**СМАРГОНЬ. Прыпамінаючы падзеі паўстання 1863 года, нельга не ўзгадаць заклік паўстанцаў, пра які пісаў Уладзімір Караткевіч у сваім знакамітым рамане "Каласы пад сярпом тваім": "Каго любіш? – Люблю Беларусь! – То ўзаемна!"**



Трохкрыжовая гара.

Архіў "РГ".

Такім ці падобным воклічам 150 год таму абаронцы чалавечай і нацыянальнай годнасці выказвалі адданасць сваёй Бацькаўшчыне.

У шэрагах інсургентаў змагалася шмат нашых землякоў: паэт **Францішак Багушэвіч** і яго брат **Апалінар**, дваране **Юльян Бакшанскі** з Тупальшчыны і **Антон Ясевіч** з Кушлянаў, смаргонскія мяшчане **Сцяпан Паўлоўскі** і **Іосіф Якубоўскі**...

У міжваенны час мінулага стагоддзя на рынкавым пляцы нашага горада знаходзілася магіла паўстанца **Апановіча**, які на гэтым месцы быў у 1863 годзе пакараны смерцю праз павешанне. Апекаваліся тады мемарыяльнай мясцінаю мясцовыя грамадскія арганізацыі і школьная моладзь, але, на жаль, да сённяшніх дзён магіла не захавалася.

Што цікава, праз паўтары сотні гадоў ад дня пачатку нацыянальна-вызваленчага паўстання супраць царызму знаходзяцца новыя імёны патрыётаў са Смаргоншчыны, якія вартыя нашай удзячнай памяці.

### Адданая Радзіме сям'я

На касцёле святога Рафала ў Вільні, пры ўваходзе, умураваная памятная дошка, дзе на польскай мове пазначана: "Светлай памяці, ксёндз **Раймунд Зямацкі**. Нарадзіўся ў Лоску 19 верасня 1810 года. Удзельнік паўстання 1831 года. Вікары парафіі святога Рафала ў Вільні, пазней пробашч у Вавёрцы Лідскага павета, каплан-герой, загінуў смерцю пакутніка, расстраляны на Лукішскім пляцы ў Вільні 5 чэрвеня 1863 года".

У гэтым тэксце мемарыяльнай шыльды ёсць толькі адна недакладнасць. На самой справе Раймунд Мікалай Зямацкі нарадзіўся ў Дахнах пад Крэвам, а ў Лоску быў толькі ахрышчаны ў парафіяльным касцёле.

Яго бацька, **Андрэй Зямацкі**, быў спадчыннікам 12 валокаў зямлі ў маёнтку Дахны ў Ашмянскім павеце. Дарэчы, у даўнія часы Дахны складаліся з такіх частак, як Рымцэнікі, Дашкоўшчына, Астэйкаўшчына і Лукашоўшчына. У 16 стагоддзі маёнтак належаў да Дашковічаў, Рымцянёў і Дахновічаў. Ад Дашковічаў у 1683 годзе яго набываюць Камінскія, якія з 1774 года валодаюць усімі часткамі дадзенага мясцовага паселішча. У 19 стагоддзі двор належаў Зямацкім і знаходзіўся ў пяці вёрстах ад гміннага цэнтра Крэва.

Шляхціц герба "Равіч" Андрэй Зямацкі з'яўляўся ротмістрам Ашмянскага павета і гэты тытул здабыў у шэрагах Тадэвуша Касцюшкі. З жонкай **Катарынай** з Камінскіх меў чатырох сыноў: **Яна, Раймунда, Ёзафа** і **Францішка**. Старэйшых сваіх сыноў, Яна і Раймунда, спачатку аддаў на вучобу да айцоў трынітарыяў у Маладзечна, а пасля адправіў у Віленскі ўніверсітэт.

У час паўстання 1831 годзе загінуў Ёзаф, а Раймунд у адной з сутычак, якая дашчэнту разбіла паўстанцаў, атрымаў вельмі цяжкія раненні. Так як Дахны былі пад наглядам, то ён туляўся па навакольных дварах, таксама баючыся навесці небяспеку на гасцінных гаспадароў. На сямейным савеце было вырашана: "для схавання слядоў" паступіць у Віленскую духоўную семінарыю.

Капланскае асвячэнне ён атрымаў у 1838 годзе і да 1845 года выконваў абавязкі вікарыя ў касцёле святога Рафала ў Вільні, потым быў вікарыем пружанскага касцёла. Ад 1849 года выконваў абавязкі пробашча парафіяльнага касцёла ў мястэчку Вавёрка на Лідчыне.

Час загаіў цялесныя раны, душпастырская праца прыносіла веру ў дабро таго, што рабіў. А вось маральныя раны памкненняў 1831 года, якія не збыліся, не зажывалі. Даўнейшыя падзеі ажылі з надыходам 1863 года.

### Зачытаў паўстанцкі маніфест

У ноч з 24 на 25 студзеня атрымаў загад зачытаць з амбона ў найбліжэйшую нядзелю паўстанцкі маніфест, які надаваў жыхарам вольнасць і зямлю, прызываў мясцовы люд абараняць свае правы і Айчыну. Маніфест Рады Народаў ў Вавёркай парафіі быў зачытаны ў нядзелю, 27 студзеня 1863 года.

А ў хуткім часе, 15 лютага, за гэты смелы учынак Раймунд Зямацкі быў арыштаваны мясцовым ураднікам. Спачатку быў высланы да Ліды, потым да Вільні і асаджаны ў вязніцу кляштара пры касцёле святога Духа. Ксёндз Раймунд Зямацкі быў публічна расстраляны па загадзе генерал-губернатара Мураёва на Лукішскім пляцы 5 чэрвеня 1863 года.



Фота забяспечана Уладзімірам ПРЫХАЧАМ.

Касцёл святога Рафала ў Вільні.

### Перапахавалі на трохкрыжовай гары

Пляменнік ксяндза Раймунда Зямацкага, вядомы прафесар Віленскага ўніверсітэта **Ёзаф Зямацкі**, сустракаўся ў 1889 годзе са сведкай пахавання дзядзькі. Жанчына паведаміла Ёзафу Зямацкаму, што цела ксяндза ў ноч пасля расстрэлу была выкапанае з магілы на Лукішскім пляцы і перапахаванае на Трохкрыжовай гары ў Вільні.

Сёння скульптура трох белых мураваных крыжоў на аднайменнай віленскай гары добра бачная з розных куткоў старога горада старажытнай сталіцы ВКЛ. Гэта не толькі адзін з напамінаў пра пакутніцкую смерць за хрысціянскую веру манахаў-францішканцаў, але і месца апошняга вечнага прытулку ахвяр паўстання 1863 года. У тым ліку і нашага земляка з крэўскай старонкі.

**Уладзімір ПРЫХАЧ,**
**Смаргонь.**

КАЛЯНДАР

**23 лістапада**. 120 гадоў з дня нараджэння Радзівона Шукевіча-Трацьцякова (1893 – 1940), беларускага журналіста. Нарадзіўся ў вёсцы Навіны Валожынскага раёна, рэдагаваў газету "Красноармейская правда". З 1924 года быў рэдактарам газеты "Беларуская вёска", потым навуковым супрацоўнікам АН Беларусі.

***

**24 лістапада**. 100 гадоў з дня нараджэння Вісарыёна Гарбука (1913 – 1986), беларускага пісьменніка, заслужанага работніка культуры Беларусі. Друкаваўся з 1957 года. Першая кніга апавяданняў – "Не шукаю спакою". Пісаў пераважна для дзяцей. Перакладаў на беларускую мову і апрацоўваў казкі народаў Паўночнага Каўказа, якія выдаў у зборніку "Напітак волатаў".

***

**26 лістапада**. 95 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Шахаўца (1918 – 1991), беларускага пісьменніка, заслужанага работніка культуры Беларусі.

***

**27 лістапада**. 110 гадоў з дня нараджэння Піліпа Пестрака (1903 – 1978), беларускага пісьменніка, заслужанага дзеяча культуры Беларусі. Вядомы сваім аўтабіяграфічным раманам "Сустрэнемся на барыкадах" (1949 – 1952), дзе некаторыя героі, якія складаюць перадавыя сілы заходнебеларускага грамадства, рэвалюцыянеры, пачытваюць працы Маркса, нават Канта, а галоўны герой рамана Андрэй Касцевіч, правобразам якога стаў сам аўтар, вывучае твор Леніна "Што рабіць?". Аднак з тэксту рамана не відаць, каб знаёмства з марксізмам і іншымі філасофскімі сістэмамі адчувальна паглыбіла іх светаадчуванне. У 1963 годзе выйшаў раман "Серадзібор", які стаўся знакавым у творчасці і жыцці пісьменніка. За гэты твор Піліп Пестрак быў узнагароджаны дзяржаўнай прэміяй імя Якуба Коласа.

***

**28 лістапада**. 95 гадоў з дня заснавання Беларускай ваеннай акругі – ваенна-адміністрацыйнага аб'яднання вайсковых часцей, ваенна-навучальных і іншых ваенных устаноў. Сваю гісторыю вядзе з утварэння Мінскай ваеннай акругі (1918). Ад 1926 года – Беларуская ваенная акруга. У пачатку Вялікай Айчыннай вайны была пераўтворана ў Заходні фронт. Узнагароджаная ордэнам Чырвонага сцяга (1968). Ад 6 мая 1992 года ліквідаваная ў сувязі са стварэннем Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь.

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Паспець за месяц да свята!


Фота acanthusandacorn.blogspot.com.

Упрыгожванне з мандарынаў.

**МАЛАДЗЕЧНА. Да навагодніх святаў застаецца 39 дзён. Упрыгожаныя па-навагоднямy кавярні і магазіны, шырокі асартымент тавараў навагодняй тэматыкі ў крамах кожны дзень нагадваюць пра тое, што набліжаецца чароўны час здзяйснення ўсіх мар.**

І да гэтага трэба як след падрыхтавацца. Нашы парады для тых, хто хоча сустрэць Новы год у поўным узбраенні.

### Прывесці сябе ў належны стан

За месяц да Новага года самы час прывесці цела ў тонус. Для гэтага, акрамя дыеты, варта ўспомніць пра спартыўную залу. З пытаннем, ці можна за месяц інтэнсіўных трэніровак скінуць пару лішніх кілаграмаў, мы звярнуліся да інструктара па фітнесе **Таццяны Сянько.**

– Не, радыкальна скінуць вагу не атрымаецца. Адзін месяц – гэта вельмі малы тэрмін. Трымаць сябе ў форме трэба цягам усяго года, каб за месяц да свята не ўзнікала такога пытання. Самыя актуальныя парады: гэта ўвогуле адмовіцца ад салодкага і мучнога да Новага года. Не есці пасля 18.00 і падмацавацца трэніроўкамі. Калі ваш арганізм падрыхтаваны (вы наведваеце басейн, бегаеце кожную раніцу), то можна пахадзіць на фітнес тры разы на тыдзень. Але без падрыхтоўкі такая нагрузка на арганізм, на сэрца, можа саслужыць дрэнную службу.

### Набыць падарункі

Не адкладайце на 31 снежня набыццё падарункаў. За месяц да Новага года самы час скласці спіс людзей, якіх вы будзеце віншаваць са святам. Насупраць кожнага імя ў вашым спісе пазначце падарунак або суму грошай, якую вы намераныя выдаткаваць на падарунак.

І наперад. Цяпер у магазінах няма ажыятажу, які будзе перад Новым годам, і вашы грошы размеркаваць значна прасцей, чым за пару дзён да свята, калі ўсё наваліцца адначасова.

### Упрыгожыць кватэру ці дом

Нават калі ў вас няма маленькіх дзяцей, стварыць дзіва сваімі рукамі ніколі не пашкодзіць. А атмасфера свята пасяліцца ў вашым доме і не пакіне яго. Дызайнер **Ганна Кічыгіна** дала некалькі парад, як хутка зрабіць прыгажосць сваімі рукамі:

– У кожнага дома, мяркую, знойдуцца папера і нажніцы. Таму раю зрабіць папяровых балерын. Сілуэт балерыны можна знайсці ў інтэрнэце ці намаляваць самому. А спаднічкай балерыны будуць знаёмыя нават дзецям сняжынкі. Выразаем сняжынкі, нанізваем іх на сілуэт балерынкі і чапляем за нітачку або "дожджык" да люстры ці столі. Ад кожнага вашага руху балерынкі будуць выпісваць свае піруэты. Вось вам і святочны настрой!

Яшчэ адна простая і смачная парада па ўпрыгожванні кватэры: купляем мандарыны, акуратна зразаем лупіну зверху, мандарын з'ядаем, у лупіну ўтыкаем гваздзіку, карыцу або іншыя духмяныя спецыі і пакідаем сушыцца, можна на мандарыне зрабіць надрэзы ў форме зорачак, месяцаў. Калі лупіна высыхае, унутр ставім свечку. Духмяны падсвечнік гатовы!

### Прадумаць месца святкавання

Калі вы не хочаце засынаць пад тэлевізар, аб'ядаючыся нанач, самы час прадумаць месца святкавання Новага года. Выбірайце тое, што вам па душы і па кашальку: рэстараны, аграсядзібы, туры за мяжу...

І не забудзьцеся пра тое, што сакрэт паспяхова свята – гэта, перш за ўсё, добрая кампанія.

### Вырасціць зеляніну

Калі ж вы ўзялі на сябе смеласць арганізацыі свята ў сябе дома, то можна параіць здзівіць вашых гасцей водарам веснавой зеляніны на навагоднім стале. Акрамя традыцыйнай зялёнай цыбулькі, што вырошчваюць у пластыкавых кубачках, можна пасадзіць дома кроп, пятрушку ці салату.

– Кроп вырасціць зусім проста, – расказвае садавод-аматар **Галіна Буда.** Бяром скрыню з вільготнай глебай, сеем насенне. Зверху прыкрываем пластом крыху ўтрамбаванай зямлі, паліваем цераз дзень і роўна праз месяц кроп можна падаваць да стала.

Што тычыцца пятрушкі, то з насення яна вырасці не паспее. Таму лепей узяць для пасадкі караняплоды. Выбраць для іх светлы пакой і паліваць раз на тыдзень. І свежую зеляніну пятрушкі можна будзе шчыпаць ужо праз 15 – 20 дзён.

А вось салату можна вырасціць не толькі ў глебе, але і ў... вільготнай ваце. Яна прарастае ўсяго за пару дзён.

Можа, у вас ёсць свае сакрэты ўдалага святкавання Новага года? Падзяліцеся з намі ў каментарах на сайце.

**Наталля ТУР.**

## Цэны на навагоднія тавары

**МАЛАДЗЕЧНА. Ужо з тыдзень крамы гандлююць навагоднімі таварамі. Мы прапануем сабраць кошык цэн, каб прадугледзець неабходныя выдаткі загадзя.**

Калі вы хочаце займець на свята жывую елачку ці хвою, то вам давядзецца чакаць да 20 снежня. Звычайна менавіта ад гэтай даты пачынаюць прадаваць жывую гераіню свята. Летась у лясніцтвах ёлкі каштавалі ад 18 да 36 тысяч рублёў, на гарадскіх кірмашах – ад 20 да 78 тысяч рублёў.

Штучная ёлка ўжо прадаецца ў крамах. 1,5-метровая пышная прыгажуня каштуе 1,2 мільёна рублёў.

Ужо можна набыць касцюмы Снягурачкі і Дзеда Мароза з футра, якія каштуюць каля 500-600 тысяч рублёў.

### Шарыкі і верхавінкі

Пакуль што карэспандэнт не заўважыла вялікай разнастайнасці верхавінак. Амаль усе яны ці ў выглядзе зорачкі, ці нанізаных шарыкаў чырвонага, залацістага ці іншага колераў. У залежнасці ад памеру яны каштуюць ад 9 да 35 тысяч рублёў.

А вось шарыкі ўжо ёсць на любы густ. Часцей сустракаюцца наборы, у якіх некалькі шарыкаў маюць падобныя матывы афарбоўкі, але не аднолькавыя. Адзін шарык можа быць з блiскаўкамі, другі – матавы, а трэці – глянцавы.

Набываць такі набор найлепш тым, хто хоча, каб іх красуня была стыльная, але пры гэтым не жадае надта забіваць сабе галаву, які шарык з якім будзе глядзецца. Яны прадаюцца па ўпакоўках па 4, 6 штук і каштуюць 20-60 тысяч рублёў. У некаторых крамах такія наборы сабраныя ў вялікіх упакоўках і пакупнікам прапануюць набыць па адной штуцы – за чатыры тысячы.

Аматарам строгасці і вытанчанасці прапануюцца наборы з аднолькавых шарыкаў. Набор з шасці штук абыдзецца ў 23-30 тысяч рублёў.

Самыя дарагія шары прадаюцца па адным і каштуюць 70-80 тысяч. Яны падыдуць ці для вельмі высокага дрэва, ці ў якасці асобнага ўпрыгажэння дома.

Аздобіць ёлку дапамогуць шышачкі, іх набор з шасці штук каштуе каля 13 тысяч.

### Стужкі і пацеркі

Многім падабаецца ўпрыгожваць ёлку банцікамі. Некаторыя іх робяць са звычайных стужак, якія купляюць па метражу. Крамы прапаноўваюць ужо гатовыя банцікі з яркай фальгі. Наборы іх каштуюць каля 20 тысяч рублёў.

Прыкладна столькі ж абыдзецца невялікая нітка пацерак.

### Гірлянды

Гірлянды трэба вешаць на ёлку першымі. Часцей набываюць з рознакаляровымі лямпачкамі, якія мігцяць у розных рэжымах. Такія ў залежнасці ад колькасці лямпачак каштуюць 25-60 тысяч рублёў.

Прадаўцы звычайна раяць аднакаляровыя гірлянды тым, хто хоча атрымаць асаблівую, індывідуальную атмасферу.

### Дададзім бляску

Мішура – гэта заключны штрых нашай ёлкі. Яе можна набыць ад 9 да 30 тысяч рублёў за штуку.

Прадаўцы адзначаюць, што многія гаспадыні купляюць мішуру, але ўпрыгожваюць ёй не ёлку, а кладуць на тумбы, каля ваз ці на падаконнік.

### Зрабіце ёлку сваёй

Каб свята было па-сапраўднаму прыгожым, аздабляйце дом ўсёй сям'ёй, упрыгожвайце ёлку цацкамі, якія зробіце разам з блізкімі людзьмі. Зрабіце ўсёй сям'ёй конкурс на лепшы малюнак каня, выражце яго, прыклейце на кардон і павесьце на ёлку. Шкло на вокнах можна размаляваць звычайнай гуашшу.

Астролагі раяць у гэтым годзе пры ўпрыгожванні ёлкі арыентавацца на зялёны, блакітны і сіні колеры.

Але набываючы іх, улічвайце, што Новы год – гэта заўсёды немалыя і часам непрадбачаныя расходы. Галоўнае ж у перадсвяточнай мітусні – не сапсаваць адносіны з блізкімі, таму што менавіта яны ствараюць для нас свята.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

ВУЧЫЦЦА – УСЁ ЖЫЦЦЁ

# Польскі досвед адносін грамадства да інвалідаў




Праблемамі інвалідаў у Польшчы цяпер займаецца вялікае мноства арганізацый.

**ВАРШАВА. Людзям аслабленым фізічна ўсё жыццё трэба вучыцца. А яшчэ вучыцца трэба ўсім нам, каб рэальна дапамагаць тым, хто аддаў перавагу, як спяваецца ў песні, "жыць, а не існаваць".**

Як вядома, адна рэч даць чалавеку ўжо злоўленую рыбу і зусім іншая – навучыць яе лавіць.

Польскі "Хельсінкскі фонд па правах чалавека" менавіта гэтым і займаецца. Прашу тут не блытаць яго з традыцыйнымі для многіх краін Хельсінкскі Камітэт. У Польшчы падобны таксама ёсць, аднак ён носіць больш характар нейкага ідэйнага гуру і на пасяджэнні збіраецца ў залежнасці ад сітуацыі, усяго некалькі разоў на год.

Стварылі яго ў сямідзесятыя гады мінулага стагоддзя, гэта значыць, яшчэ "за камуністамі". Пасля таго як тагачасныя задачы былі выкананыя і Польшча цвёрда стала на шлях пабудовы дэмакратыі і захавання правоў чалавека, паўстала пытанне, хто будзе ўсім гэтым займацца на прафесійнай аснове.

Згодна з польскім заканадаўствам, зарэгістраваць адпаведны фонд было значна прасцей і танней, чым штосьці іншае. Так 9 студзеня 1990 года і ўзнік ХФПЧ.

Сёння ў ім пастаянна працуе каля сарака чалавек, а Яніна Агнешка Класоўская займаецца там непасрэднай абаронай правоў інвалідаў. Чаму менавіта гэтай тэматыкай?

– Таму што людзі з абмежаванымі магчымасцямі, – тлумачыць пані Класоўская, – адна з тых груп, якія мы называем найбольш уразлівымі ў плане прававой дыскрымінацыі. Іх правы парушаюцца часцей за ўсё.

Праблемамі інвалідаў у Польшчы цяпер займаецца вялікае мноства арганізацый. Прычым як прыватных, так і дзяржаўных, што ў канчатковым выніку і дае нядрэнны эфект. Сітуацыя мае шанец да паляпшэння толькі ў тым выпадку, калі паміж імі наладжанае плённае супрацоўніцтва.

Мы працуем з Беларуссю, перш за ўсё, таму, што яна з'яўляецца адной з нямногіх краін, якія пакуль не падпісалі і не ратыфікавалі Міжнародную канвенцыю аб абароне правоў інвалідаў, і вашы інваліды сур'ёзна ўшчэмленыя ў сваіх правах.

### Асабліва гэта тычыцца вучобы

Згаданы прававы дакумент быў прыняты Генеральнай Асамблеяй ААН 13 снежня 2006 года, а адкрыты для падпісання 30 сакавіка 2007-га. Польшча зрабіла гэта адразу ж, але для таго каб дакумент набыў сілу закона, патрэбна была яго ратыфікацыя парламентам, а для гэтага патрабавалася прывядзенне ў адпаведнасць з ім ўсіх польскіх законаў. На гэта спатрэбіўся не адзін год. 15 чэрвеня 2012 года польскі сойм яго ратыфікаваў, 6 верасня ён быў падпісаны прэзідэнтам Польшчы, а 25 верасня 2012 перададзены генеральнаму сакратару ААН.

Такім чынам, Польшча шмат у чым ужо прайшла той шлях, які Беларусі яшчэ трэба прайсці, бо, як сказана раней, РБ яго да гэтага не прыняла. І ў агляднай будучыні рабіць гэтага не мае намеру.

Але справа не толькі ў канкрэтных дакументах. Як гаварылася ў адным фільме, сутнасць "ў галовах". Маецца на ўвазе трансфармацыя поглядаў грамадства і дзяржавы на інваліднасць як такую. Змены ў Польшчы былі гэтак імклівымі, што нават цяжка паверыць у тое, што яны адбыліся ў вельмі сціслыя часовыя тэрміны.

– У часы камуністычнай улады, – распавёў мне варшавянін Ежы Парачынскі, які зайшоў у фонд па кансультацыю, – польскія інваліды цалкам забяспечваліся дзяржаўнай уладай, якая ўсяляк імкнулася прыбраць іх далей ад сваіх вачэй. Для інвалідаў паўсюдна існавалі так званыя "ўстановы закрытага тыпу", названыя спецінтэрнат. Але цяпер сітуацыя змянілася, ёсць магчымасць выбару. Пра яго я і хачу пагаварыць сёння з кансультантамі ХФПЧ...

### Сапраўды, сёння сітуацыя кардынальна змянілася

Напрыклад, у размешчаным недалёка ад Варшавы невялікім мястэчку Уласкаў даўным-даўно было створанае Таварыства невідушчых, а тамтэйшы цэнтр навучання сляпых дзяцей існуе і зусім больш за 130 гадоў.

Раней галоўнымі прафесіямі для інвалідаў былі сталяр, слесар і г.д. – тыя сферы дзейнасці, дзе не патрабавалася адмысловая кваліфікацыя. Тыпу вытворчасці шчотак. Цяпер сюды звяртаюцца толькі тыя, хто дадаткова да адсутнасці зроку мае яшчэ праблемы з запаволеным разумовым развіццём. Астатнія невідушчыя дзеці вучацца ў звычайных школах, сярод звычайных аднагодкаў, а потым пры жаданні атрымліваюць вышэйшую адукацыю.

### Раней нічога падобнага не было

Гадоў 20-30 таму, калі хтосьці бачыў чалавека з белым кіем, які пераходзіў вуліцу, то ўсяляк стараўся яму дапамагчы, бо белы кій сігналізаваў аб адсутнасці ў чалавека зроку. Сёння гэтага не робіць ніхто. І зусім не таму, што палякі сталі такімі абыякавымі да чужых праблем.

Змянілася псіхалогія, прычым так кардынальна, што маё пытанне на гэты конт у некаторых выклікала нават пэўнае здзіўленне.

Адзін з праходжых рэзюмаваў яго вельмі красамоўнай фразай:

– Навошта? Мы ж можам іх пакрыўдзіць. Людзі вучацца жыць са сваёй хваробай. Дапамагаем, вядома, але толькі ў тым выпадку, калі згодны сам інвалід.

Як бачыце, слова "вучацца" з'яўляецца дамінуючым.

Калі ў Беларусі для атрымання вышэйшай адукацыі інваліду патрэбны адмысловы дазвол, то ў Польшчы нічога падобнага няма. Выключэнне складаюць толькі тыя галіны чалавечай дзейнасці, дзе патрабуецца адмысловая фізічная падрыхтоўка. Напрыклад, калі чалавек вырашыў стаць... касманаўтам.

Расказвае пані Класоўская:

– У астатніх выпадках паступленне ў нашы ВНУ ідзе ў анлайн-рэжыме, гэта значыць, ананімна. Вызначальнымі служаць не нейкія суб'ектыўныя фактары, а адзнакі ў атэстаце аб сярэдняй адукацыі. Прыёмная камісія пра тое, хто канкрэтна да іх паступае, не ведае наогул. Аб інваліднасці асобных студэнтаў даведваюцца толькі падчас іх вучобы.

У тым жа Варшаўскім універсітэце сёння на роўных з астатнімі навучаецца каля тысячы студэнтаў з інваліднасцю, а ў якасці памочніка рэктара там нават ёсць спецыяльны ўпаўнаважаны па справах інвалідаў. Пры гэтым ніякіх патуранняў людзям з абмежаванымі магчымасцямі ва ўніверсітэце ніхто не робіць. І так ва ўсіх ВНУ Польшчы.

Скончыць жа хацелася словамі старшыні Беларускага таварыства інвалідаў Уладзіміра Патапенкі:

– Навучанне інвалідаў у беларускіх умовах залежыць (як і ўсё астатняе), перш за ўсё, ад саміх інвалідаў. Калі ў нас нешта заканадаўча і рэгламентуецца, то ў большай ступені для таго, каб прыдумаць якія-небудзь абмежаванні.

**Аляксандр ТАМКОВІЧ, "Свободные новости-плюс".**

"КРУГЛЫ СТОЛ"

# *Кіраўніцтва ФК "Маладзечна-2013":* "У наступным годзе выжываць мы не будзем!"

**МАЛАДЗЕЧНА. "Круглы стол" па выніках сёлетняга футбольнага сезона адбыўся ў рэдакцыі "Рэгіянальнай газеты" 19 лістапада.**

На ім прысутнічалі: галоўны трэнер футбольна-спартыўнага клуба "Маладзечна-2013" **Дзяніс Мятліцкі,** трэнер дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы **Андрэй Найдзіч,** заснавальнік клуба "Маладзечна-2013" **Дзмітры Ганчароў,** дырэктар клуба "Маладзечна-2013" **Аляксандр Любанец,** футбаліст **Андрэй Пуляк,** заўзятары **Павел Карэцкі і Мікіта Крыўцоў.**

Асноўныя пытанні сустрэчы датычыліся вынікаў сезона і планаў на 2014 год. Поўную відэаверсію сустрэчы можна паглядзець на сайце rh.by.

Прыводзім некаторыя моманты з размовы.

**– Вашы ўражанні пасля сезона, ці ўсё запланаванае атрымалася?**

**Дзяніс Мятліцкі:** – Гэты год стаў выпрабаваннем для ўсіх нас. Як вы ведаеце, каманда склалася амаль за некалькі тыдняў да пачатку сезона. Першы круг мы гралі, як маглі. Аднак, не ўсё склалася з-за таго, што гулец, на якога мы ўскладалі вялікія надзеі, Аляксей Ціханові, атрымаў сур'ёзную траўму.

Яшчэ па рэгламенце неабходнай умовай быў удзел у асноўным складзе гульца 1994 года. Гэту пазіцыю мы закрывалі Мікітам Струкавым, але нявопытнасць яго таксама адыграла сваю ролю.

Што ж датычыцца апошніх гульняў сезона, дзе мы перажывалі рэзкі спад, тлумачыцца гэта проста адсутнасцю трэніровак. З верасня мы не правялі ніводнай трэніроўкі.

**Дзмітры Ганчароў:** – Самы галоўны вынік сезона я лічу ў тым, што нам удалося захаваць клуб для горада, захавалі колеры клуба. Мы ж трымаліся ўвесь год толькі на сваім энтузіязме. У наступным годзе такога не будзе. Выжываць мы не будзем!

**Андрэй Найдзіч:** – Што датычыцца школы, то я лічу, што са сваёй задачай на абласных спаборніцтвах мы справіліся. Бронза вобласці – гэта зусім нядрэнны вынік.

**– Увесь сезон не спыняліся размовы пра тое, што "Маладзечна-2013" – каманда, якая маладзечанцам чужая, што там гуляюць адны мінчане. Пракаментуйце, калі ласка.**

**Мікіта Крыўцоў:** – Так, у пачатку сезона нам было цяжка прыцягнуць аматараў на стадыён. Аматары "ўзору 2000-х" адмаўляліся прыходзіць туды, гаварылі пра тое, што цяпер няма каго падтрымліваць. Але, як вы бачылі, фанацкі сектар жыве.

**Андрэй Пуляк:** – На працягу ўсяго сезона ў мяне ні разу не было адчування, што я гуляю не дома. Якая розніца з якога я горада, калі я адстойваю гонар беларускага горада на чэмпіянаце нашай краіны?

**Дзмітры Ганчароў:** – Размовы пра тое, што мясцовы ты, не мясцовы ўжо надакучылі. Мы ў пачатку сезона ўзялі на сябе адказнасць. І я лічу, што горад Маладзечна свой гонар пад нашым кіраўніцтвам не згубіў. Таму давайце забудземся пра штамп аб прапісцы. Футбалісты 90 хвілін былі на полі, атрымоўвалі траўмы. З гэтым таксама трэба лічыцца.

**– Ад нашых чытачоў паступіла пытанне да кіраўніцтва дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы і клуба "Маладзечна-2013": ці не надышоў час сабрацца за сталом перамоў і пачаць разам працаваць дзеля маладзечанскага футбола, знаходзячы кампрамісы?**

**Андрэй Найдзіч:** – Гэта пытанне хутчэй не да кіраўніцтва, а да трэнераў. Мы запрашаем каманду Дзяніса Мятліцкага наведаць нашыя трэніроўкі, каб вырашыць пытанні ўзаемаразумення паміж сабой, не падключаючы да гэтага шырокае кола грамадскасці.

**Дзяніс Мятліцкі:** – Давайце ў бліжэйшай будучыні так і зробім!

**– Якія планы на будучы сезон?**

**Андрэй Найдзіч:** – Нашы выхаванцы зноў будуць абараняць горад на абласных спаборніцтвах.

**Аляксандр Любанец:** – На гэта пытанне цяпер можа адказаць толькі кіраўніцтва раёна. Будзе фінансаванне, будуць планы на наступны сезон.

З ліпеня мы толькі чуем абяцанкі і размовы: "Будзе, але пазней. Дадзім грошы, але трэба сабраць неабходныя для гэтага паперы..." Давайце паставім пытанне так: ці трэба ўвогуле футбол гораду?

Па самых сціплых падліках, каб існаваць (заўважце, існаваць, а не выжываць) у наступным годзе клубу неабходна 500 мільёнаў рублёў.

**Дзмітры Ганчароў:** – Мы пакуль не закрылі фінансавыя пытанні гэтага сезона. Як толькі гэта вырашыцца, мы пачнём складаць планы на будучыню. Аднак футбалісты больш не пачуюць ад нас: "Ідзіце клейце свае старыя буцы, грошай зноў няма! Як я ўжо гаварыў, выжываць мы не намераныя".

**Дзяніс Мятліцкі:** – Калі клуб усё ж такі атрымаецца захаваць, змены ў складзе гульцоў непазбежныя. Ужо сёння з многімі я развітаўся назаўсёды. Я ўдзячны ўсім хлопцам за сезон. А шукаць лепшай долі – іх права.

**Наталля ТУР.**



Фота Настассі РОЎДЫ.

Злева направа: Андрэй Пуляк, Аляксандр Любанец, Дзмітры Ганчароў падчас "круглага стала".



Фота Настассі РОЎДЫ.

Злева направа: заўзятары Павел Карэцкі, Мікіта Крыўцоў, футбаліст Андрэй Пуляк.

**Больш фота на сайце**



ФУТБОЛ

# ФК "Смаргонь" вырваў перамогу ў канцы матча

**СМАРГОНЬ. Матч 29-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе ў першай лізе футбольны клуб "Смаргонь" праводзіў дома: 16 лістапада сустракаўся з клубам "Мінск-2".**

Першымі вызначыліся смаргонцы: гол на 35-й хвіліне забіў **Алег Попель**. У пачатку другога тайма госці зраўнялі лік. Вырвацца наперад "Смаргоні" ўдалося толькі ў канцы матча: на 87-й хвіліне вызначыўся лепшы бамбардзір чэмпіянату **Сяргей Крот**. Завяршыўся матч з лікам 2:1.

– Мы правялі заключную гульню на сваім полі. Папярэдні матч з "Лідай" прынёс нам адмоўны вынік, таму мы ўсё рабілі для таго, каб рэабілітавацца перад заўзятарамі, – расказаў у інтэрв'ю сайту fc-smorgon.by галоўны трэнер клуба "Смаргонь" **Павел Бацюта**. – Вырашыць пастаўленую задачу, лічу, нам удалося.

**– Пасля матча заўзятары ўчынілі маляўнічы перфоманс, прысвечаны заканчэнню вялікага футбола-2013 у Смаргоні. Як ацэніце фанатаў у гэтым годзе?**

– На працягу ўсяго сезона нас выдатна падтрымлівалі фанаты. Хай на выязных матчах іх было не заўсёды шмат, але іх падтрымка для нас вельмі важная – дырэктар ФК "Смаргонь" **Станіслаў Вацлававіч Юргель** пастаянна падтрымлівае з фанатамі кантакт. Пасля выязных гульняў хлопцы вярталіся з намі ў аўтобусе. На працягу ўсяго сезона падтрымка была добрая, і сёння футбалісты і кіраўніцтва клуба падышлі да сектара, каб падзякаваць ім за падтрымку ў чэмпіянаце.

Перад апошнім турам "Смаргонь" займае шостае месца ў турнірнай табліцы.

**Аддзел інфармацыі.**

# Камент-эксперт

rh.by

Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420

**Гістарычны каляндар на 2014 ад "Будзьма беларусамі!" у Маладзечне раскупілі ў першы ж дзень**

Па-мойму, гэты праект вельмі ўдалы. Па-першае, відэа зроблена з вялікім густам. Гісторыя можа быць цікавай, і гэта таму відавочны прыклад. Я глядзела некалькі разоў і не страціла цікавасці. Бо і малюнкі, і тэкст неверагодна прывабныя воку і вуху. Дзякуй, што далі маляванку ў вольнае спампоўванне. Добры падарунак кожнаму дзіцяці. Тым больш, што маляванка правакуе пытанні, на якія бацькам трэба будзе адказаць і праз гэта расказаць дзіцяці штосьці пра гісторыю краіны, у якой мы жывём. Праўда, хацелася б усё ж, каб завезлі і ў кнігарні маляванку ўжо ў аформленым выглядзе: з вокладкай і на добрай паперы. Каб можна было падарыць і не сваім дзецям. Дзякуй за каляндар. Вельмі хачу набыць і сабе, і ў падарунак. Прыгожа, гістарычна, павучальна і пасучаснаму. Пабольш бы такіх добрых праектаў! *Алеся.*

# Вучоба ў Акадэміі Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь – гэта прэстыжна

Упраўленне Дэпартамента фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь па Мінскай вобласці і горадзе Мінску ажыццяўляе **адбор кандыдатаў (юнакоў )** для паступлення ў 2014 годзе ва ўстанову адукацыі "Акадэмія Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь" на дзённую форму навучання факультэта міліцыі па спецыяльнасці **"Эканамічнае права" са спецыялізацыяй "аператыўна - вышуковая дзейнасць"**.

Патрабаванні да кандыдатаў: наяўнасць на момант паступлення сярэдняй, прафесійна-тэхнічнай ці сярэдняй спецыяльнай адукацыі; узрост ад 17 да 25 гадоў; адсутнасць абмежаванняў па здароўі для праходжання вайсковай службы; адсутнасць кампраметуючых матэрыялаў у дачыненні да кандыдата і яго блізкіх сваякоў (прыцягненне да крымінальнай адказнасці ).

За больш падрабязнай інфармацыяй звяртацца ў аддзел кадраў упраўлення па адрасе: *г.Мінск, вул.П.Броўкі*, д.3 , кор.2 або па тэл. **( 8-017 ) 294-94-33 , ( 8-017 ) 331-47-49 , ( 8-017 ) 331-46-99 .**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 6 | | 9 | | | 8 | | | |
| | | | | 7 | | | | |
| | 3 | 2 | 5 | 9 | 6 | 4 | | |
| | 6 | 8 | | | | 9 | 7 | |
| 9 | 5 | | | | | | 2 | 4 |
| | 7 | 4 | | | | 8 | 1 | |
| | | 7 | 6 | 3 | 2 | 5 | 9 | |
| | | | | 5 | | | | |
| | | | 8 | | | | 2 | 6 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

## ГУЛЯЙ З "РГ"!

# Працягвайце выйграваць!

**РЭГІЁН. На мінулым тыдні ў конкурсе "Гуляй з "РГ" перамог маладзечанец Вячаслаў.**

Яго адказы:

1. Як ацэньваеце вынік гэтага сезона для маладзечанскай каманды па футболе. Асноўны пазітыўны момант – тое, што мы захавалі футбол у Маладзечне. Наш футбольны клуб не перастаў існаваць, нягледзячы на ўсе цяжкасці, і я веру, што калі мы так ўпарта будзем рухацца да пастаўленай мэты – стварэння прафесійнальнай футбольнай каманды, – то праз сезон-другі ФК "Маладзечна" абавязкова чакае павышэнне ў класе.

2. Якія акцёры Мінскага абласнога драмтэатра вам найбольш падабаюцца і чаму? Усе акцёры спектакля "Камедыя". Па-першае, таму, што гэта акцёры з першага спектакля, які я паглядзеў у драмтэатры яшчэ ў школьны час. І нават сёння "Камедыя" застаецца найулюбёным для мяне спектаклем, бо перадае каларытны сакавіты беларускі гумар. На агульным плане асабліва выдзяляецца каларытная постаць Чорта, якога фантастычна іграе **Алег Чэчанеў**. Мяркую, што гэты акцёр павінен іграць у кінастужках і серыялах, бо талент яго бачны з першых не тое, што слоў, а нават рухаў і жэстаў.

3. Чым для вас адметны драмтэатр у Маладзечне? Наш тэатр адметны перш за ўсе самабытнасцю рэпертуару, цудоўным падборам акцёраў, ну і, што не менш важна, прыгожай архітэктурай і гістарычнасцю самога будынка, які з'яўляецца сапраўднай культурнай каштоўнасцю горада.

А адказ на апошняе пытанне мы пакінем сабе, каб для чытачоў гэта быў сюрпрыз.

У падарунак для Вячаслава мы падрыхтавалі білеты ў тэатр, музычны дыск і торцік.

Мы працягваем разыгрываць білеты для двух чалавек у Мінскі абласны драмтэатр, музычны дыск і яшчэ адзін падарунак.

Узнагароджаны будзе той, хто адкажа на наступныя пытанні.

**Пытанні нумара:**

1. З каго пачынаецца тэатр?
2. Спектакль па матывах якога фільма вы хацелі б паглядзець у Мінскім абласным драмтэатры?
3. Якая асоба з Вілейкі для вас найбольш цікавая?
4. Які горад ці вёска нашага рэгіёна ў вас выклікаюць асаблівыя пачуцці? Пра якое месца вы хацелі б даведацца больш?

Дасылайце адказы на электронную пошту regionnews@rh.by. Поспехаў!

**Аддзел інфармацыі.**

## РЭПЕРТУАР

# Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Прыгоды **"Тры мушкецёры"**, 3D (Расія, 2013, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
22 лістапада – 16.00, 21.00
23 лістапада – 18.30
24 лістапада – 21.00
25 лістапада – 18.30
26 лістапада – 21.00
27 лістапада – 18.30
28 лістапада – 21.00
Кошт білета – 40 000-45 000 рублёў.

Фэнтэзі, прыгоды **"Тор 2: Царства цемры"**, 3D (ЗША, 2013, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
22 лістапада – 18.30
23 лістапада – 16.00, 21.00
24 лістапада – 14.00, 18.30
25 лістапада, 27 лістапада – 21.00
Кошт білета – 40 000-45 000 рублей.

Гістарычная драма **"Распуцін"** (Расія, 2013, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
24 лістапада – 16.30
26 лістапада, 28 лістапада – 19.00
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Анімацыйныя прыгоды **"Джасцін і рыцары доблесці"**, 3D (Іспанія, 2013, без узроставых абмежаванняў)
23 лістапада – 14.00
Кошт білета – 15 000 рублёў.

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыйныя прыгоды **"Тор: Легенда вікінгаў"** (Ісландыя, Германія)
23, 24 лістапада – 15.00, 17.00
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Камедыя, прыгоды **"Каханне з акцэнтам"** (Расія)
22 лістапада – 17.30
23, 24 лістапада – 19.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Трылер **"Без кампрамісаў"** (Вялікабрытанія, Францыя)
22 лістапада – 19.30, 21.30
23-25 лістапада – 21.30
26, 27 лістапада – 19.30
28 лістапада – 21.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Драма, трылер **"Саламон Кейн"** (Францыя, Чэхія, Вялікабрытанія)
26, 27 лістапада – 21.30
28 лістапада – 19.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.
Тэл. **: 8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

# Мінскі абласны драматычны тэатр

**Рэпертуар на лістапад**

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**ГАСТРОЛІ Магілёўскага абласнога тэатра драмы і камедыі імя Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча (г.Бабруйск)**

**"Пэпі Доўгая панчоха"** (музычная казка) А.Ліндгрэн
24 нядзеля 11.00

**"Без Ягора будзе гора"** (камедыя) Васіль Ткачоў
24 нядзеля 17.00

**"Свінтус грандыёзус, ці Хто смяецца апошнім"** (камедыя ў 2-х дзеях) Кандрат Крапіва
27 серада 19.00

**"Месье з рагамі, мадам з вусамі"** (вадэвільная гісторыя ў 2-х дзеях) Марсэль Берк'е-Мерыньe, Анатоль Курбскі
28 чацвер 19.00

**"Шукаю сапраўднага мужчыну"** (камедыя ў 2-х дзеях) Алена Папова
29 пятніца 19.00

Тэатр мае права на замену спектакляў.
Маладзечна, вуліца Чкалава, 7, тэл: **76-17-32, 75-24-17.** E-mail: modt@tyt.by.

# Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

**"Церамок "** (казка). С.Маршак.
24 лістапада – у 12.00.

Чакаем вас: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.* Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

## ГАРАСКОП (22-28 ЛІСТАПАДА)

**Авен.** У спрэчных пытаннях, каб не нашкодзіць сабе, трымайце рот на замку. І не задумвайце рамонт ці нават перастаноўку мэблі на скорую руку.

**Цялец.** Не прымярайце на сябе вобраз сапраўднага дамашняга тырана! А то вы як быццам дакладна ведаеце, што каму трэба рабіць. Ад гэтага ўзнікнуць толькі праблемы.

**Блізняты.** Што б ні адбывалася, але ўсе падзеі пакладуць пачатак пераменам да лепшага. Калі што ідзе не так, не губляйцеся, а падумайце, якую карысць вы маглі б атрымаць з дадзенай сітуацыі.

**Рак.** Да вас цягнуцца людзі за падтрымкай, якія не такія моцныя духам. Умейце адрозніваць тых, хто сапраўды апынуўся ў складанай сітуацыі, ад хранічных няўдачнікаў.

**Леў.** Кантралюйце сябе, бо людзі ўвесь час будуць бесцырымонна ўмешвацца ў ваша жыццё. Яны будуць патрабаваць, прад'яўляць прэтэнзіі. Таму дастаткова будзе адной іскры, каб прагрымеў магутны выбух.

**Дзева.** Зоркі кажуць, што сурапць вашага націску не ўстаіць ніводная крэпасць. Праўда, чым больш сур'ёзная мэта, тым даўжэй будзе доўжыцца яе асада.

**Шалі.** Будзьце вышэй за непрыемныя дробязі і не забывайце пра пачуццё гумару – яноператворыць трагедыю ў камедыю і засцеражэ ад сварак.

**Скарпіён.** Адкладзіце набыццё буйных пакупак, бо праз нейкі час вы перакanaецеся, што прынялі правільнае рашэнне.

**Стралец.** Калі ў вас ёсць сябры, з якімі вы па нейкіх прычынах пасварыліся і даўно не бачыліся, запрасіце іх да сябе ў госці.

**Казярог.** Зоркі раяць не траціць нервовыя клеткі дарма і, галоўнае, не спрабаваць вырашаць праблемы радыкальна. Памятайце, што лепшы сродак ад галаўнога болю – гэта не гільяціна, а анальгін, напрыклад.

**Вадалей.** Вас чакаюць прыемныя перамены да лепшага. Не дазваляйце таму, што наканавана вам лёсам, прашмыгнуць міма. У вас праявіцца здольнасць прыцягваць тое, што вы захочаце. Усе жаданні павінны здзейсніцца.

**Рыбы.** Удзяліце больш увагі і часу родным: не забывайце, што менавіта яны з'яўляюцца самымі важнымі людзьмі ў вашым жыцці.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**




Рэгіянальная газета


**Камент-эксперт**




Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420,** на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

## НАДВОР'Е

**23 лістапада, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +9 | | +8 | | +8 | | +2 | |
| | +7 | | +9 | | +6 | | 0 | |
| | 739 | ↖ 5 | 740 | ← 4 | 740 | ↓ 2 | 746 | ↘ 3 |
| Вільня | +8 | | +8 | | +7 | | +3 | |
| | +7 | | +8 | | +4 | | 0 | |
| | 747 | ↙ 2 | 749 | ↙ 3 | 749 | ↘ 4 | 754 | ↘ 5 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |



Усход 8.57
Захад 17.00
Даўжыня дня 8.03



Усход 22.31
Захад 12.48
Квадра 4

## ПРЫКМЕТЫ

- Калі на Матруну (22 лістапада) будзе шэрань на дрэвах – чакай маразоў.
- Калі ў дзень Івана Міласцівага (25 лістапада) будзе ісці снег абльбо дождж, то працяглы час будзе цёпла.

## Чытайце праз тыдзень:

- **Чаму нельга выкідваць батарэйкі ў звычайную сметніцу, чытайце ў наступным нумары "РГ".**

■ ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Куды вы выкідаеце выкарыстаныя батарэйкі?

**Наталля Аніскоміч, гаспадыня:**



– Звычайна выкідаю ў сметніцу.

**Ніна Станкевіч, швачка:**



– Выкідаю ў спецыяльную ёмістасць для збору батарэек ва ўнівермагу ці на "Модулі".

**Яўгенія Козел, пенсіянерка:**



– У сметніцу звычайную. Але чула, што ёсць пэўныя месцы, куды іх трэба несці. Вось якраз у гадзінніку памяняла батарэйку, выкіну, куды трэба.

**Таццяна Шупенка, маладая маці:**



– Неяк не стаіць такое пытанне. Але калі трэба выкінуць, то ў звычайную сметніцу кідаем. Але чула, што для гэтага ёсць вызначаныя месцы.

**Тэрэса Дуровіч, пенсіянерка:**



– Іх у мяне вельмі мала, але калі даводзіцца, то ў вядро разам са смеццем. Аднойчы бачыла скрынку, на якой напісана, што яна прызначаная для батарэек. Дык вось цяпер я ўжо ведаю, што ёсць спецыяльныя месцы, а раней не ведала.

**Мікалай Васілеўскі, пенсіянер:**



– Для гэтага ёсць вызначаныя месцы. Але я іх нікуды не выкідаю, бо іх няма.

**Падрыхтавалі Настасся РОЎДА і школка пры рэдакцыі "РГ".**




Рэгіянальная газета

Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 47 (969) 22.11.2013.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г. Зак. 1082. Падпісана ў друк у 10.00 21.11.2013.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.